ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (127) кастрычнік 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

# Малітоўная акцыя "Мільён дзяцей моліцца Ружанец" аб'яднала маленькіх вернікаў з усёй Беларусі









18 кастрычніка тэлемост на партале catholic.by злучыў арганізаваныя групы ў пяці гарадах Беларусі: Мінску, Віцебску, Гродне, Баранавічах і Магілёве. Глядзець прамую трансляцыю і духоўна далучыцца да ружанцовай малітвы аб супакоі ва ўсім свеце магла кожная беларуская парафія і не толькі.

Галоўная трансляцыя вялася з Хрысціянскага сацыяльнага цэнтра ў Мінску. Там разам з дзецьмі маліліся біскупы Юрый Касабуцкі і Тадэвуш Кандрусевіч, у Магілёве — біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB, а ў Віцебску — Старшыня ККББ біскуп Алег Буткевіч.

У Віцебскую катэдру на малітву прыбылі прадстаўнікі ўсіх пяці парафій Віцебска, а таксама з Шуміліна. Маленькія вернікі з радасцю і захапленнем назіралі за анлайн-малітвай і самі актыўна далучаліся ў адказах.





*Марына Сінкевіч, тэкст; Анатоль Бандарчук-Вошлаў і Юрый Сідун, фота*



Больш матэрыялаў чытайце на сайце
**Catholicnews.by**



Відэа трансляцыі малітоўнай акцыі "Мільён дзяцей моліцца Ружанец"

# Парады Святога Айца фармацэўтам



Падчас сустрэчы з Італьянскім таварыствам бальнічных фармацэўтаў (Vatican Media)

**Браць прыклад з Добрага Самараніна заклікаў Папа Францішак прадстаўнікоў Італьянскага таварыства бальнічных фармацэўтаў, якіх прыняў 14 кастрычніка на аўдыенцыі ў Ватыкане.**

Пантыфік лічыць галоўнымі аспектамі працы фармацэўта штодзённую руціну і "схаванае" служэнне. Гэта важна ў многіх прафесіях, дзе неабходныя цярпенне, настойлівасць і дакладнасць. Калі гэтыя рысы суправаджаюцца малітвай і любоўю, нараджаецца "святасць штодзённага жыцця".

Святы Айцец звярнуў увагу на важнасць прафесіяналізму бальнічнага фармацэўта, які разам з урачом "даследуе, эксперыментуе, прапануе новыя шляхі; заўсёды знаходзіцца ў непасрэдным кантакце з пацыентам". Такая здольнасць разумець хваробу і пацыента часам вырашае самыя складаныя клінічныя сітуацыі.

У гэтай прафесіі важна таксама этычнае вымярэнне, прычым у асабістым і грамадскім аспектах. У першым выпадку гаворка ідзе пра пастаянную ўвагу да жыцця пацыента. "І гэта ў некаторых сітуацыях прадугледжвае супраціў сумлення, што з'яўляецца не здрадай, а, наадварот, вернасцю свайёй прафесіі, калі ён слушна матываваны. Гэта асуджэнне несправядлівасці, учыненай супраць нявіннага і безабароннага жыцця", – адзначыў Папа Францішак, маючы на ўвазе, між іншым, аборты.

Этычнае вымярэнне ў грамадскім аспекце прадугледжвае сітуацыю, калі "стратэгіі аховы здароўя, накіраваныя на дасягненне справядлівасці і агульнага дабра, застаюцца эканамічна і этычна ўстойлівымі". Пантыфік заклікаў сваіх гасцей у прафесіі не скарацца перад "культурай адчужэння".

Кіраванне рэсурсамі і ўважлівасць да таго, што даверана фармацэўту, маюць, паводле Папы, не толькі эканамічнае, але і этычнае значэнне. Гаворка тут ідзе пра "ўвагу да дэталяў, набыццё і захоўванне прадукцыі, яе правільнае выкарыстанне і прызначэнне для тых, хто мае неадкладную патрэбу". Таксама важнымі застаюцца ўзаемаадносіны з медыцынскім персаналам і адпаведнымі структурамі.

Завяршаючы сустрэчу, Папа Францішак даў бальнічным фармацэўтам апошнюю, як прызнаўся ён сам, самую важную параду: браць з сабой на працу Евангелле, каб хаця б дзесяць хвілін у дзень прысвяціць яго чытанню. "Без жывой вады Евангелля мы не можам крочыць. Кожны дзень становіцца сухім, і нават сэрца рызыкуе высахнуць. Евангелле наталяе смагу. Гэта пойдзе вам на карысць!", – звярнуў увагу Святы Айцец.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня*



# Папа Рымскі Францішак прыняў прадстаўніка Маскоўскага Патрыярхату

**6 кастрычніка Папа Францішак прыняў на кароткай аўдыенцыі старшыню Аддзела знешніх царкоўных сувязей Маскоўскага Патрыярхату, Мітрапаліта Валакаламскага Іларыёна.**

Як паведамляе сайт АЗЦС, былі абмеркаваныя пытанні адносін паміж Каталіцкім Касцёлам і Рускай Праваслаўнай Царквой.

На пачатку размовы Мітрапаліт Іларыён перадаў Святому Айцу сардэчнае прывітанне Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла. Іерарх адзначыў, што з часу "гаванскай сустрэчы" двухбаковае супрацоўніцтва інтэнсіўна развіваецца. Актыўнае ўзаемадзеянне дазваляе рэалізоўваць значную колькасць сумесных праектаў па дапамозе хрысціянам, якіх пераследуюць, абароне традыцыйных каштоўнасцей, сацыяльным служэнні, адукацыі і культуры.

Папа выказаў радасць магчымасцю сустрэцца і абмеркаваць бягучыя пытанні ўзаемных адносін.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня*

# *Дзяржсакратар Паралін:* пакуль няма ўмоў для візіту Святога Айца ў Расію

**Хрысціянства і палітычны папулізм, сітуацыя ў Інда-Ціхаакіянскім рэгіёне, пытанне пра магчымасць візіту Папы Францішка ў Расію – тэмы, якія былі закранутыя падчас размовы кардынала Пётра Параліна з журналістамі.**

Дзяржаўны сакратар Яго Святасці Папы прыняў удзел у сустрэчы Еўрапейскай народнай партыі, якая 22 верасня прайшла ў Рыме і была прысвечаная дыялогу з Касцёлам. На палях форуму найбліжэйшы супрацоўнік Пантыфіка адказаў на некалькі пытанняў журналістаў.

Гаворачы пра прычыны сваёй прысутнасці на саміце адной з найбуйнейшых палітычных сіл ЕС, іерарх падкрэсліў, што менавіта палітыкі пажадалі выслухаць прапановы і просьбы Касцёла. Акрамя таго ён заўважыў, што многія чальцы Еўрапейскай народнай партыі адкрыта вызнаюць хрысціянскія прынцыпы.

Каментуючы зварот да хрысціянскіх каштоўнасцей у рыторыцы папулістаў правага толку, Дзяржсакратар падкрэсліў важнасць таго, каб яны прымалі хрысціянства ў цэласнасці. "У хрысціястве не выбіраецца тое, што найбольш падабаецца, ці тое, што найзручнейшае – у хрысціянстве трэба прымаць усё. Да хрысціянства належыць абарона жыцця ва ўсіх фазах, ад зачацця да натуральнай смерці, але таксама і любоў да бліжняга, якая выяўляецца ва ўвазе да міграцыйнага феномену згодна з чатырма словамі, каторыя заўсёды згадвае Папа: прымаць, бараніць, падтрымліваць і інтэграваць", – сказаў ватыканскі іерарх, звяртаючы ўвагу на існаванне рызыкі інструменталізацыі рэлігій ці маніпуляцыі імі ў палітычны мэтах.

Кардынал Паралін зазначыў, што Касцёл падзяляе імкненне будаваць будучыню Еўропы на павазе да ўсіх вымярэнняў чалавечай асобы, у тым ліку да трансцэндэнтнага, на падмурку супольнасці, субсідыярнасці і салідарнасці, што было ўласціва таксама айцам-заснавальнікам Еўрапейскага Саюза.

Іерарх выказаў занепакоенасць напружанасцю ў Інда-Ціхаакіянскім рэгіёне пасля стварэння альянсу AUKUS,



Кардынал Пётра Паралін

які быў заснаваны ЗША, Вялікабрытаніяй і Аўстраліяй і прадугледжвае ядзернае ўзбраенне апошняй. Дзяржсакратар нагадаў, што Святы Пасад не падтрымлівае павелічэнне ядзерных арсеналаў, бо яны не толькі не дапамагаюць захаванню міру і бяспекі ў свеце, але таксама пашыраюць канфліктнасць.

Журналістаў цікавіла таксама пытанне пра магчымасць візіту Францішка ў Расію. "Я думаю, што Папа быў бы зацікаўлены ў паездцы ў Расію, як і ў іншыя краіны, але мне здаецца, што на цяперашні момант не існуе ўмоў для такога падарожжа. Жаданне павінна рэалізавацца ў канкрэтных ўмовах", – сказаў ён, дадаўшы, што не можа сказаць пра тое, ці магчымая ў найбліжэйшы час сустрэча паміж Святым Айцом і Патрыярхам Маскоўскім.

*Аляксандр Панчанка*




# Папа сустрэўся з манахіняй, вызваленай у Малі з палону баевікоў

**10 кастрычніка Святы Айцец сустрэўся з калумбійскай манахіняй с. Глорыяй Сэсіліяй Нарваес Аргоры, якая правяла ў палоне баевікоў у Малі чатыры гады і восем месяцаў і была вызваленая днём раней.**

59-гадовая місіянерка з кангрэгацыі Сясцёр-францішканак Марыі Беззаганнай была выкрадзеная 7 лютага 2017 г. недалёка ад мяжы Малі з Буркіна-Фасо. Баевікі, звязаныя з тэрарыстычнай групоўкай Аль-Каіда, уварваліся на тэрыторыю парафіі ў Карангаса, дзе законніца працавала на працягу шасці гадоў, і звезлі яе ў невядомым кірунку.

Праз некаторы час с. Глорыя з'явілася ў відэароліку Аль-Кайды. Затым, праз ліст, скіраваны свайму брату пры пасярэдніцтве Чырвонага Крыжа, яна паведаміла, што знаходзіцца ў палоне ўжо ў іншай групоўкі.

Манахіня была вызвалена 9 кастрычніка дзякуючы сумесным намаганням дзяржаўных уладаў і спецслужбаў некалькіх краін, пасля чаго прыбыла ў Рым.

Папа Францішак сустрэўся з с. Глорыяй Сэсіліяй Нарваес Аргоры перад св. Імшой, якую цэлебраваў у базыліцы св. Пятра ў Ватыкане з нагоды адкрыцця XVI Асамблеі сінода біскупаў на тэму "На карысць сінадальнага Касцёла: камунія, удзел і місія". Папа падзяліў радасць вызвалення з калумбійскай манахіняй і благаславіў яе.

*Аляксандр Панчанка*

*Старонка падрыхтавана па матэрыялах сайта **беларускай рэдакцыі Vatican News***

# Пяты Ружанцовы кангрэс у Магілёве.
## *Хроніка форуму і сведчанне ўдзельніка*

**2 кастрычніка, у першую суботу месяца, які ў Касцёле асаблівым чынам прысвечаны малітве на ружанцы, у Магілёве прайшоў Пяты Ружанцовы кангрэс. Папярэдні кангрэс летась быў віртуальным праз санітарныя абмежаванні ў сувязі з пандэміяй каранавірусу. Сёлетні форум, прысвечаны Ружанцу, праходзіў у Магілёве пад дэвізам "Адплыві на глыбіню" (Лк 5, 4). Яго арганізатарамі традыцыйна сталі айцы-дамініканe, якія з даўніх часоў папулярызуюць ружанцовую пабожнасць у свеце, а ў якасці вядоўцы выступіў Біскупскі вікарый для горада Магілёва і Магілёўскай вобласці біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB.**

■ **а. Раман Шульц OP,** *тэкст;* **Міхал Майсей,** *фота*



Кульмінацыяй кангрэсу стала святая Імша, цэлебрацыю якой узначаліў Апостальскі адміністратар sede vacante Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Казімір Велікаселец. Разам з ім пры алтары старадаўняй магілёўскай катэдры Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Станіслава маліліся біскуп Яшэўскі і больш за дзясятак святароў. У кангрэсе ўзялі ўдзел кансэкраваныя асобы, сярод якіх былі сёстры святога Дамініка, сёстры Марыі Успамогі (салезіянкі), сёстры-місіянеркі Святой Сям'і, а таксама семінарысты падрыхтоўчага курса духоўнай семінарыі з Мінска на чале з духоўным айцом і вернікі з розных мясцін Беларусі.

Усяго сёлетні Ружанцовы кангрэс сабраў у горадзе на Дняпры каля 170-і ўдзельнікаў.

Гэты аднадзённы форум працягваўся восем гадзін і акрамя святой Імшы і супольнай малітвы на ружанцы ўключаў у сябе чатыры даклады, прысвечаныя чатыром кнігам, якія ў падарунак атрымалі ўсе ўдзельнікі разам з заахвочваннем іх прачытаць і штосьці з іх зачэрпнуць для свайго жыцця.

Сястра Часлава Навіцкая, уршулянка з Мінска, у сваім дакладзе пазнаёміла ўдзельнікаў з асобай святой Уршулі Ледухоўскай і прадставіла біблійныя разважанні заснавальніцы законніцкай супольнасці ўршулянак Сэрца Езуса Канаючага, звязаныя з таямніцамі Ружанца і змешчанымі ў кнізе "Скарб любові".

Сястра Часлава падарыла гэтыя кнігі ўдзельнікам, а таксама прывезла на кангрэс для ўшанавання рэлківію святой Уршулі.

Маці пяцярых дзяцей Алена Валаховіч на падставе кнігі пра святых бацькоў святой Тэрэзы ад Дзіцяткі Езуса распавяла пра асноватворныя прынцыпы, якімі кіраваліся ў сваім жыцці Луі і Зэлі Мартэн, чые пяць дачок сталі законніцамі.

Айцец Павел Мажэйка, дамініканін, прадставіў кароткі змест кнігі айца Яцэка Варанецкага "Паўната малітвы". Гэты духоўны твор, у якім пададзены практычныя аспекты малітвы, да сённяшняга дня адыгрывае вялікую ролю ў фармаванні маладых дамініканаў і будзе карысны кожнаму, хто хоча паглыбіць сваё перажыванне супольнай і асабістай малітвы.

Айцец Раман Шульц, дамініканін, падзяліўся разважаннямі адносна адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту, заахвоціўшы звярнуцца да кнігі святога Альфонса Марыі Лігуоры, прысвечанай наведванню Езуса ў табэрнакулюме. У гэтым творы пададзены вельмі прыгожыя разважанні заснавальніка супольнасці рэдэмптарыстаў і малітвы да Маці Божай.

Чатыры кнігі, прадстаўленыя ў дакладах выступоўцаў, кожны ўдзельнік кангрэсу атрымаў у якасці падарунка, а ўсе ахвотныя могуць набыць іх у кнігарні выдавецтва Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі "Pro Christo".

На форуме быў час на пытанні дакладчыкам, а таксама на асабістыя сведчанні пра ролю ружанцовай малітвы ў жыцці ўдзельнікаў. Тут жа можна было пазнаёміцца з дзейнасцю касцельных рухаў і СМІ, а група ахвярных валанцёраў прыгатавала для ўсіх смачны абед.

На заканчэнне да ўдзельнікаў кангрэсу звярнуўся яго галоўны арганізатар айцец Раман Шульц OP. Святар заахвоціў іх па магчымасці стварыць у сваіх парафіях новую супольнасць жывога Ружанца або арганізаваць вернікаў на штодзённую адарацыю Езуса ў Эўхарыстыі.

Айцец Раман папрасіў прысутных маліцца ў інтэнцыі чарговага Ружанцовага кангрэсу, які з Божай дапамогай плануецца правесці ў наступным годзе. Ад імя арганізатараў дамініканін шчыра падзякаваў удзельнікам кангрэсу і ўсім тым, хто прычыніўся да яго правядзення справай або малітоўнай ці матэрыяльнай падтрымкай.

Сваімі ўражаннямі ад сёлетняга Ружанцовага кангрэсу з Catholic.by падзялілася магілёўская парафіянка Валянціна Бондар.

"Наш кангрэс – свята душы". Менавіта гэтай фразай, сказанай сястрой Чаславай Навіцкай, і я б акрэсліла свае ўражанні ад кангрэсу. З вялікай цікавасцю я паслухала даклад айца Паўла аб майстэрстве малітвы, якому прысвечана кніга айца Яцэка Варанецкага "Паўната малітвы". Мне гэта проста неабходна было пачуць!

Дзякуючы сястры Чаславе я пазнаёмілася са святой Уршуляй Ледухоўскай. Лічу, што яе духоўная спадчына – гэта сапраўдная скарбонка мудрасці і любові. Я пастараюся ісці за яе парадай „рыхтавацца да святой Імшы так, як быццам яна апошняя ў жыцці". Пасля словаў сястры Чаславы "прасіце сваіх дзяцей, каб маліліся за вас", успомніліся гісторыі з асабістага жыцця, якія пацвярджаюць дзейснасць дзіцячай малітвы.

Айцец Раман прадставіў цудоўную кнігу з залатой класікі духоўнай літаратуры „Наведванне Найсвяцейшага Сакраманту". Мяне ўразіла, што гэтую кнігу пераклалі на беларускую мову адмыслова да пачатку кангрэсу. У памяці засталіся многія моманты з пранікнёнай і вельмі вобразнай прамовы айца Рамана на прыкладзе ўласнага жыцця пра тое, які вялікі плён прыносіць адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту.

Калі я пра гэта слухала, асабліва востра адчула сваю асабістую і нашу супольную адказнасць за будучыню нашых дзяцей.

Запомнілася жанчына з пытаннем, як крык душы: "Што сказаць сыну, каб ён паверыў у Бога?.." Бласлаў, Божа, каб праз малітву і любоў маці сын яе атрымаў веру!

Гутаркі ў перапынках з цікавымі людзьмі, набыццё малітоўніка, шчодрыя падарункі (цудоўныя кнігі), смачны абед, добразычлівыя людзі вакол – усё гэта стварала атмасферу свята. Вялікі дзякуй арганізатарам кангрэсу і ўсім, хто ім дапамагаў", – кажа Валянціна Бондар.

# Біскуп Буткевіч прыняў удзел у працы пленарнага пасяджэння Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы

**З 23 па 26 верасня ў Рыме праходзіла чарговае пленарнае пасяджэнне Рады Канферэнцый Біскупаў Еўропы (РКБЕ), прысвечанае 50-годдзю існавання гэтай касцельнай структуры. У пасяджэнні прыняў удзел Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.**

Рада Канферэнцый Біскупаў Еўропы – гэта структура, створаная падчас пантыфікату Папы Паўла VI для падтрымання сувязі і ўзаемадзеяння паміж епіскапатамі Еўропы. Яе мэта – спрыяць памнажэнню дабра Касцёла і абараняць яго.

Тэма сёлетняга пленарнага пасяджэння Рады – "РКБЕ: 50 гадоў на службе ў Еўропе. Памяць і перспектывы ў кантэксце энцыклікі Fratelli tutti".

У дакладах працоўных дзён асамблеі іерархі звярнулі асаблівую ўвагу на братэрства і еднасць, падкрэслівалі важнасць мужнасці ў евангелізацыі і пошуку спосабаў перадачы веры новаму пакаленню.

Пасяджэнне распачалося святою Імшою ў ватыканскай базіліцы Святога Пятра, цэлебрацыю якой узначаліў Папа Францішак.

Пасяджэнне наведаў Дзяржаўны сакратар Яго Святасці Папы Францішка кардынал П'етра Паралін. Найбліжэйшы супрацоўнік Святога Айца вызначыў дзесяць кірункаў, у якіх еўрапейскія Касцёлы пакліканыя дзейнічаць разам: фармацыя, братэрская дабрачыннасць, падтрымка сем'яў, абарона чалавечага жыцця, маладое пакаленне, увага да слабых і бедных, мігранты, адзінства хрысціянаў, клопат пра навакольнае асяроддзе і абарона міру.




На пасяджэнні новым старшынёй РКБЕ абраны Гінтарас Грушас, арцыбіскуп Віленскі. Яго намеснікамі сталі кардынал Жан-Клод Ольрыш, арцыбіскуп Люксембуржскі, і біскуп Ласло Нэмет, ардынарый дыяцэзіі Зрэняніна (Сербія).

Ісці разам з Божым народам заклікаў пастыраў новаабраны Старшыня РКБЕ ў нядзельнай гаміліі. Пры гэтым ён нагадаў словы Папы Францішка.

"Мы, пастыры, ідзем з людзьмі: часам спераду, часам усярэдзіне, часам ззаду.

Добры пастыр павінен рухацца так: наперадзе кіраваць, усярэдзіне заахвочваць і не забывацца на пах статку ззаду, таму што ў людзей таксама ёсць „нюх". У іх ёсць "нюх" для пошуку новых дарог або для адшукання згубленай дарогі", – сказаў іерарх.

"Мы вернемся сёння ў нашыя краіны і нашыя дыяцэзіі, каб з новымі сіламі ісці разам гэтым шляхам да будучыні, кіруючыся Духам Божым і слухаючы Бога, Які гаворыць праз Яго святы народ", – заключыў арцыбіскуп Грушас.

***Кс. Раман Суша***

*Старонка падрыхтавана па матэрыялах сайта* ***Catholic.by***

# Мінск і Міншчына ў перыяд 23. ІІ. 1917 – 18. ІІІ. 1921

**У найбліжэйшых нумарах хацелася б прапанаваць Вам новы фармат ужо традыцыйнай гістарычнай рубрыкі. Гэта публікацыя гістарычнага дакумента – успамінаў аднаго са святароў, які працаваў у Мінску ў 1917 – 1921 гадах – ксяндза Браніслава Усаса.**

■ Пераклад і падрыхтоўка да друку **Раісы Зянюк**

Успаміны як гістарычная крыніца важныя для нас тым, што дазваляюць паглядзець на гістарычныя падзеі вачыма іншага чалавека, удзельніка альбо відавочцы гэтых падзей. Варта падыходзіць да такіх крыніц крытычна: разумець, што апісаныя з'явы адлюстраваны праз прызму светаўспрыняцця іншага чалавека, яго агульных ведаў, паходжання, нацыянальнай прыналежнасці і нацыянальнай самасвядомасці, палітычных поглядаў і г.д. У сувязі з гэтым немагчыма казаць пра поўную аб'ектыўнасць адлюстравання тых з'яў, якія апісвае аўтар, а таксама пра тое, што разуменне ім гістарычных з'яў і працэсаў будзе адпавядаць агульнапрынятым трактоўкам той ці іншай гістарыяграфічнай школы. Адначасова заўсёды важна ўлічваць успаміны сучаснікаў пры даследаванні пэўнага гістарычнага перыяду. Адзначаны перыяд – 1917–1921 гг. – у гісторыі Беларусі вельмі важны: гэта і час заключнага перыяду і заканчэння І Сусветнай вайны, і час падзення манархіі ў Расійскай імперыі, у склад якой на той момант уваходзілі беларускія землі, і стварэнне беларускай дзяржаўнасці, і савецка-польская вайна, і падпісанне Рыжскай дамовы, якая падзяліла Беларусь на дзве часткі.

Аўтар успамінаў, Браніслаў Мятод Усас, нарадзіўся 30 чэрвеня 1885 г. у Пецярбургу. Яго бацька, Матэвуш, быў вядомым доктарам, а маці Аліна (з сям'і Савіцкіх) паходзіла з Магілёўскай губерні. У сям'і Усасаў было сямёра дзяцей. Усе яны атрымалі добрае, аднак не вельмі рэлігійнае выхаванне. У 1893-1903 гг. Браніслаў Усас вучыўся ў класічнай гімназіі, дзе добра засвоіў лацінскую мову. У 1903 г. паступіў на гістарычна-філалагічны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, дзе ў якасці спецыяльнасці абраў гісторыю. Таксама быў студэнтам археалагічнага інстытута. Пасля заканчэння вучобы працаваў у паліклініцы, якая належала яго бацьку, і адначасова працаваў у архівах і бібліятэках Пецярбурга.

У 30-гадовым узросце паступіў у духоўную семінарыю ў Пецярбургу і 11.02.1917 г. атрымаў святарскае пасвячэнне, пасля якога быў накіраваны на працу ў Мінск. Тут сярод іншага ён працаваў катэхетам у школе, капеланам сясцёр-бэнэдыктынак, а таксама спаўняў функцыі душпастыра ў шпіталі на Траецкай гары. У жніўні 1921 г. быў накіраваны ў Маскву як член Рэвіндыкацыйнай камісіі – як эксперт па архіўных і бібліятэчных пытаннях. У Мінску ён таксама займаўся справамі выяўлення дакументаў аб гісторыі скасаваных кляштараў у Беларусі.

10 лютага 1926 г. вярнуўся ў Польшчу. Ад таго моманту займаўся душпастырскай працай пры касцёле св. Аляксандра. У 1930 г. па прапанове мітрапаліта львоўскага Андрэя Шаптыцкага займаўся інвентарызацыяй дакументаў па гісторыі Уніі ў архівах Варшавы, Вільні, Гродна і Любліна. У 1969 г. у сувязі з пагаршэннем здароўя пераехаў у дом састарэлых святароў у Атвоцку, дзе і памёр 6 снежня 1977 г.

У бібліятэцы Люблінскага каталіцкага ўніверсітэта маюцца перададзеныя Браніславам Усасам дакументы, якія агульна называюцца "Зборы кс. Браніслава Усаса". Яны складаюцца з шэрагу папак, сабраных даследчыкам. Папкі сфарміраваныя паводле тэматычнага прынцыпу і прысвечаныя разнастайным аспектам гісторыі каталіцкага касцёла ў Расійскай імперыі, Царстве Польскім, ІІ Рэчы Паспалітай, ПНР.

Асобную цікавасць уяўляюць уласна ўспаміны аўтара. Ён назваў іх "Успаміны 1885 – 1969". Гэта машынапіс з фондаў спецыяльных збораў, пад нумарам 912. Дакумент на польскай мове складаецца з 55 друкаваных на машынцы аднабаковых старонак і 8 выдзеленых аўтарам частак:

1. Дзяцінства, гімназіяльныя і ўніверсітэцкія гады (арк. 1-13);
2. Побыт кс. Усаса ў Мінску Літоўскім у перыяд 23.ІІ.1917 – да 18.ІІІ. 1921 (арк. 14-28);
3. Канфіскацыя літургічнай маёмасці расійскімі ўладамі ў 1922 г. у касцёле св. Кацярыны ў Пецярбургу (арк. 29-35);
4. Перанясенне труменкі з мошчамі караля Станіслава Ляшчынскага з касцёла Св. Кацярыны ў Петраградзе ў Польшчу. (арк. 36-43);
5. Пасяленне (замешканне) у Варшаве і праца пры касцёле Св. Аляксандра (арк. 44);
6. Праца на пасадзе архівіста ў грэка-каталіцкага мітрапаліта А. Шэптыцкага (арк. 45-46);
7. Пачатак прац рэвіндыкацыйных 22.12.1922 г. у Царскай Публічнай Бібліятэцы ў Пецярбургу і ліст ад 29.12.1922 да Упаўнаважаных Расійска-Украінскай дэлегацыі праф. С. Платонава і М. Ліхачова. (арк. 47-51);
8. Праца ў будаўніча-жыллёвым таварыстве "Osiedle na Skarpie" па вуліцы Бельгійскай, 3 у 1934-1969 гг. (арк. 52-55).

*Ніжэй прыведзены аўтарскі пераклад другога раздзела ўспамінаў кс. Браніслава Усаса.*

**Раздзел ІІ**
**Побыт кс. Браніслава Усаса ў Мінску Літоўскім у перыяд 23.02.1917 – 18.03.1921**

*[арк. 14.]* У нядзелю 11 лютага 1917 г. у дзень свята Маці Божай з Лурду адміністратар Магілёўскай архідыяцэзіі кс. біскуп-суфраган Я. Цапляк удзяліў мне ў рыма-каталіцкай катэдры ў Пецярбургу на вуліцы 1 Роты Ізмайлаўскага палка святарскае пасвячэнне. 18 лютага я адправіў першую св. Імшу ў касцёле Св. Станіслава ў Пецярбургу. Архідыяканам быў ксёндз-пралат Францішак Астроўскі, казанне прамовіў кс. доктар-канвертыт Дзіадор Калпінскі, які падчас сваёй прамовы казаў аб маёй працы сярод праваслаўных, зычачы мне далейшай плённай дзейнасці святара ў гэтым кірунку.

23 лютага на загад кс. біскупа Яна Цепляка я выехаў у Мінск Літоўскі для ўрэгулявання рэлігійнай і душпастырскай справы сярод т.зв. "беженцев". Расійскія войскі, адступаючы ў глыб Расіі, гналі на ўсход каталіцкае насельніцтва Крэсаў. У Мінску ў той час жыло больш за 11000 палякаў – выгнанцаў з Канрэсоўкі і з польскіх Усходніх Крэсаў.

Праведзеныя мной перамовы па рэлігійных пытаннях т.зв. "беженцев" з галоўнакамандуючым і з грамадзянскімі ўладамі мелі добры вынік да задавальнення ксяндза-біскупа Цепляка. Мушу заўважыць, што гэта было ў апошні месяц царавання цара Мікалая ІІ. Непаспяховасць у бітвах з Германіяй, а таксма рост рэвалюцыйнага руху, нараканне насельніцтва на голад, вырашальна паўплывалі на пазітыўны вынік нашых размоў.

Пасля выбуху Лютаўскай рэвалюцыі адносіны Часовага расійскага ўраду да каталіцызму кардынальна змяніліся. Была арганізавана Польская ліквідацыйная камісія па справах Польскага Каралеўства, якая вельмі істотна спрычынілася да рэлігійнай талерантнасці. Разам з гэтым, расійскі ўрад па заяве ксяндза-біскупа Цепляка спыніў дзейнасць рыма-каталіцкай духоўнай калегіі ў Пецярбургу, а пасля аб'явіў пра ліквідацыю гэтага інстытуту і вярнуў некалькі касцёлаў, адабраных царскім урадам.

Да змены палітыкі ўраду ў адносінах да каталіцызму найбольш спрычыніліся новапрызначаны Луцка-Жытомірскі суфраган ксёндз-доктар Міхал Гадлеўскі, да таго часу шматгадовы выкладчык гісторыі касцёла ў Пецярбургу, ксёндз-біскуп Я.Цепляк і кс. Валеры Пласкевіч – былы канцлер мітрапалітальнай курыі ў Пецярбургу.



**кс. Браніслаў Усас, намеснік старшыні польскай дэлегацыі ў Санкт - Пецярбургу.** *Фота AGAD*

У ліпені 1917 г. кс. біскуп Я. Цепляк склікаў у Пецярбургу з'езд магілёўскага і мінскага духавенства для абмеркавання пытання, як павінна духавенства рэагаваць на змены ў Расіі. Сярод дэлегатаў, выбраных духавенствам Мінскай дыяцэзіі, аказаўся і я, беручы актыўны ўдзел у пасяджэннях [арк. 15] з'езду. Тым часам кс. біскуп Я. Цепляк у паразуменні з Часовым урадам да моманту намінацыі новага біскупа ў адроджаную Мінскую дыяцэзію прызначыў часовым Генеральным вікарыем былога пробашча парафіі ў Пецярбургу кс. Эдварда О'Рурка (O'Rourke), народжанага ў 1876 г. сына заможнага зямяніна мінскай зямлі.

Пасля заканчэння палітэхнікі ў Рызе ён паехаў вывучаць тэалогію ў Інсбрук. Пасля атрымаў святарскае пасвячэнне і быў прызначаны капеланам мітрапаліта Вінцэнта Ключынскага, а пазней – прафесарам Духоўнай семінарыі ў Пецярбургу. Ксёндз-кардынал Аляксандр Какоўскі ў сваіх дагэтуль не апублікаваных успамінах, якія знаходзяцца ў бібліятэцы Духоўнай семінарыі ў Варшаве, так характарызуе кс. О'Рурка: "Сярод іншых святароў вызначаўся кс. О'Рурк, пробашч парафіі Св. Станіслава, сёння – першы біскуп Гданьскі: з палякамі – паляк, з расіянамі – расіянін, з немцамі – немец", – цытую характарыстыку ў даслоўным гучанні. Тое, што думка ксяндза-кардынала Какоўскага не перабольшванне, а толькі адлюстраванне рэчаіснасці, сведчыць выданне календара "Annuaire Pontifical Catholique" (Paris 1928, s. 229), дзе на падставе сведчання самога О'Рурка выразна адзначана, што яго "la langue materrnelle est russe"[1].

На жаль, прызначэнне кс. О'Рурка Генеральным вікарыем у тыя вірлівыя рэвалюцыйныя часы выклікала для Мінскай дыяцэзіі шмат цяжкасцяў і болю з-за яго няўдалых распараджэнняў. Як канкрэтны прыклад прывяду справу рэвіндыкацыі падамініканскага касцёла насуперак выразнай забароне кс. О'Рурка, але здзейсненую мной у красавіку 1918 г. у Мінску Літоўскім. Духавенства Мінскай дыяцэзіі на 80% складалася з ксяндзоў, перасяленаых у свой час расійскімі ўладамі, і адзначалася вялікім патрыятызмам. Доказы гэтаму можам знайсці ў "Wspomnieniach lekarza" атэіста праф. Вінсэнта Тамашэвіча (выданне PIW Варшава, 1965, с. 105-106). На сходзе, скліканым кс. О'Рурkам у лютым 1918 г., абмяркоўваліся справы адносін духавенства да ўраду і пытанне, якія цяпер мы павінны выставіць умовы. У сходзе ўдзельнічала каля сарака чалавек. Апошнім дакладчыкам быў я. Складзены кароткі спіс абмежаванняў канфіскацый царскага ўраду ў адносінах да каталіцкага насельніцтва на Крэсах. І як вынік я прапанаваў праект звароту да ўраду з патрабаваннем вяртання пакляштарных будынкаў, якія на дадзены момант не выкарыстоўваюцца. Мой даклад выклікаў гучныя апладысменты маіх канфратраў[2], але, на жаль,

[1] "яго родная мова - руская" (пераклад з фр. – аўт.)

[2] Con frater, сабрат, тут – таксама святароў.

⇒

# ва ўспамінах ксяндза Браніслава Усаса



**кс. Эдвард О'Рурк.** *Фота Narodowe Archiwum Cyfrowe*

⇐ рэакцыя ксяндза О'Рурка была нечакана абуральнай: ён ледзь даў мне магчымасць скончыць прамову і наўпрост сказаў, што не толькі я, але і ўсе ксяндзы, [арк. 16] якія тут прысутныя, у выпадку вяртання царскай улады будуць зняволеныя і сасланыя. Пасля гэтай заявы ён закрыў пасяджэнне, паведаміўшы, што пра тэрмін наступнай сустрэчы святарам паведамяць спецыяльна.

Тым часам мой праект прадугледжваў заняцце падамініканскага будынка, які на той момант быў абсалютна нежылы. Перад гэтым яго занялі царскія войскі. У тым будынку на апошнім паверсе знаходзілася капліца для жаўнераў-католікаў, арганізаваная са згоды царскіх уладаў двума ваеннымі капеланамі – ксяндзом Юзафам Ранцанам і ксяндзом Францішкам Руткоўскім, а таму доступ да будынку быў вольны і заняцце яго групай людзей у колькасці 64 асоб, якія належалі да Саюзу хрысціянскай дэмакратыі, Польскай вайсковай арганізацыі і харцэраў – у тым ліку 17 жанчын, – не ўяўляла ніякіх цяжкасцяў. Бо панавала безуладдзе, гэта давала гарантыі, што заняцце падамініканскіх будынкаў не выкліча ніякіх складанасцяў. Толькі праз некалькі дзён ад рэалізацыі рэвіндыкацыі павінен быў адбыцца ўваход немцаў у Мінск, якія будуць лічыцца з ужо здзейсненым фактам.

Не паспеў я прыйсці дадому са сходу, як атрымаў ліст ад кс. О'Рурка да мяне з настолькі скандальным зместам, што прыводжу яго даслоўна: "Ксяндзы мне казалі, што нібыта Ксёндз плануе ў нядзелю арганізаваць выступленне з людзьмі для заняцця пабернардзінскага касцёла. Таму я папярэджваю, што ў дадзены момант ніякіх непарадкаў у горадзе быць не можа, і я не спынюся нават перад суспенсацыяй, калі б Ксяндзы да чагосьці такога падгаворвалі людзей. Кс. Э. О' Рурк".

У адказе на гэты ліст я напісаў, што вяртаюся ў Пецярбург, адмаўляючыся ад душпастырскай працы ў Мінску. Аднак пасля даўжэйшага роздуму і абмеркавання з канфратрамі, мы вырашылі заняць падамініканскія будынкі.

А 18-й гадзіне мы прыйшлі да будынка (касцёла). Пасля кароткай маёй прамовы да групы і супольнай малітвы ўзяліся за выбіванне штучнага сховішча і драўляных перагародак. І тады з-пад тоўстага пласта тынкоўкі пачало выглядаць сапраўднае аблічча святыні.

Неўзабаве наступіла заняцце Мінска немцамі. Пасля маіх кароткіх перамоваў з галоўным камандаваннем ад нямецкага генерала Брэдофа (Bredoff) я атрымаў два аўсвайсы з датамі 14 сакавіка і 15 мая 1918 г. з наступным зместам: 1) "У дамініканскім касцёле першы і другі паверх у правым крыле належыць пакінуць на патрэбы войска" і 2) "Левы бок каталіцкага касцёла аб'яднаны з шасцю памяшканнямі першага паверха ў дамініканскім кляштары – яны не будуць занятыя нямецкімі войскамі". Гэтыя пасведчанні прымусілі магістрат г. Мінска пераканацца, што нямецкія ўлады прызналі мяне за законнага гаспадара і адміністратара падамініканскіх будынкаў.

17 сакавіка адбылося асвячэнне будынкаў, на якое кс. О' Рурк пагадзіўся пасля вельмі гарачай размовы, паколькі я звярнуў яго ўвагу, што [арк. 17] у выпадку адмовы я буду вымушаны сам асвяціць будынкі, а каталіцкая грамадскасць будзе абураная баязлівасцю і лакействам перад расійскімі ўладамі. Пасля доўгай размовы ён пагадзіўся асвяціць будынкі, але пры ўмове, каб падчас імшы не было ніякага казання. На гэта я адрэагаваў маўчаннем, паколькі папярэдне дамовіўся з ксяндзом-доктарам Юзафам Гергетам (Hergietem), што ў момант, калі кс. О'Рурк адвернецца да людзей па Credo, кс. Гергет з імправізаванай амбоны прамовіць казанне (а хутчэй, патрыятычную прамову), у якой падкрэсліць, што мінскае духавенства ў час рэвалюцыі аказалася на вышыні і вярнула жыхарам горада прыгожую гістарычную святыню.

У дзень 17 кастрычніка касцёл быў ужо адрамантаваны да такой ступені, што магло наступіць урачыстае асвячэнне будынка ксяндзом-біскупам Мінскай дыяцэзіі Зыгмунтам Лазінскім.

Касцёл у стылі барока меў тры нефы і 14 алтароў, нагадваючы інтэр'ер касцёла айцоў-дамініканцаў у Варшаве на вуліцы Фрэта.

На працягу няпоўных двух гадоў я сабраў на аднаўленне касцёла 200 тысяч рублёў. Быў нязмерна шчаслівы, што акрамя аднаўлення самога касцёла, у пакляштарных будынках удалося размясціць наступныя інстытуты:

1. Саюз польскай хрысціянскай дэмкаратыі;
2. Дзяржаўны камітэт дапамогі для дзяцей, які апякаў 65 тысяч дзяцей на Міншчыне, не зважаючы на іх веравызнанне;
3. Саюз крэсовай моладзі;
4. Дом скаўтаў;
5. Таварыства аматараў навукі;
6. Асацыяцыя польскіх тэхнікаў;
7. Швейная майстэрня бялізны для войска, дзе працавала каля 200 жанчын.

З іншых касцельных спраў пры перамовах з немцамі заслугоўвае ўвагі канферэнцыя каталіцкага і праваслаўнага духавенства, скліканая нямецкім генералам Брэдофам. Адносіны немцаў да палякаў былі незычлівыя, а нават пагардлівыя. Праваслаўных расіян немцы фаварытызавалі. У канферэнцыі з праваслаўнага расійскага боку ўдзельнічалі тры асобы: мінскі праваслаўны біскуп Ежы (Юрый), пратаіерэй Ачапаўскі і праваслаўны святар Хэрашка, румын па паходжанні, пробашч праваслаўнай чыгуначнай царквы ў Мінску. Каталіцкі польскі бок прадстаўлялі кс. Эдвард О'Рурк, адміністратар дыяцэзіі, кс. Юзаф Міцэвіч – канцлер курыі, і я, рэктар падамініканскага касцёла ў Мінску. Канферэнцыю распачаў ген. Брэдофф, [сказаўшы], што збірае прадстаўнікоў двух веравызнанняў, каб нармалізаваць узаемныя польска-расійскія адносіны, і даў слова біскупу Юрыю[3], які ў кароткай прамове [арк. 18] заявіў, што са свайго боку з радасцю будзе імкнуцца да паразумення. У сваю чаргу пратаіерэй Ачапоўскі наўпрост адзначыў даслоўна: "Раней мы вас прыгняталі, цяпер вы нас будзеце прыгнятаць". Разам з тым кс. Хэрашка, чалавек высокай культуры і інтэлігентнасці, сказаў, што цяперашні час спрыяе распрацоўцы новых спосабаў паводзін. Далей слова ўзяў кс. О'Рурк, катораму па яго просьбе я абазначыў кароткі план тэмы, якую я лічыў адпаведнай падняць у той момант. Выбраў дэвізам словы айца царквы Тэртуліяна, а менавіта: "In necessariis unitas in dubiis libertas, sed in omnibus caritas". Кс. Міцэвіч абмежаваўся кароткай, але вельмі змястоўнай прамовай, лічачы, што віну за ненармальныя праваслаўна-каталіцкія адносіны нясуць выключна праваслаўныя.

Апошнім дакладчыкам быў я. Вяртаючыся да вышэйпрыведзеных словаў айца Тэртуліяна, я сказаў, што ўжо даўно мы павінны былі б перастаць лічыць усе крыўды, нанесеныя адным бокам другому, паколькі ўсе мы – вызнаўцы Хрыста. І мы павінны лічыць сябе братамі, якіх не можа дзяліць асобная інтэрпрэтацыя Евангелля, і ні ў якой меры ў нас не павінна ўзнікаць адчуванне незычлівасці, а тым больш варожасці. Палякі-католікі з канца XVI ст., г.зн. ад падпісання ўніі ў Брэсце, паказваюць прыклад пошуку адзінства і рэлігійнай талерантнасці. На маю думку, перашкоды ў імкненні да аб'яднання стварала не столькі праваслаўнае духавенства, колькі братазабойчая палітыка былога царскага ўраду. Як канкрэтны доказ, што мае цяперашнія словы я лічу адпаведнымі рэчаіснасці, я далучыў імя віленскага праваслаўнага архіепіскапа Макарыя. На жаль, значная частка праваслаўнага духавенства паддалася варожым дзеянням царскага ўраду, што выклікала ненармальны стан польска-расійскіх адносін. Таксама я ўспомніў, што некалькі гадоў таму ў штомесячніку "Слово истины", выдаваным у Пецярбургу па-руску, я заклікаў да адмовы ад даўнейшых узаемных крыўдаў, а ўсю энергію, запал і гарлівасць раіў прысвяціць нармалізацыі каталіцка-праваслаўных адносін на прынцыпах талерантнасці.

Добрая ініцыятыва нямецкіх уладаў нармалізаваць рэлігійныя польска-расійскія адносіны не прынесла ніякага выніку. Праз рост недаверу акупацыйных улад да польскага насельніцтва, якое пражывала на Усходніх Крэсах, немцы ні разу больш не збіралі канферэнцыю абодвух веравызнанняў. З-за гэтага польска-расійскія адносіны развіваліся і далей ва ўзаемнай [арк. 19] незычлівасці і нават варожасці.

Немцы былі ў Мінску да пачатку 1919 г.[4]

[3]Усас выкарыстоўвае *Ежы*

[4]Дата закрэслена і напісана рукой – лістапада 1918 г.

## Адбылося пахаванне маці кс. пралата Аляксандра Рагіні

**11 кастрычніка адбылося пахаванне маці кс. пралата Аляксандра Рагіні – сакратара Апостальскай Нунцыятуры ў Аргенціне, святара Віцебскай дыяцэзіі. Ганна Рагіня адышла ў вечнасць ва ўзросце 67 гадоў. Пахавальную цырымонію ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.**

Біскуп Алег адзначыў, што "маці святара – гэта заўсёды маці не аднаго чалавека, а кожнага з нас, перадусім тых, з кім кс. Аляксандр вучыўся ў семінарыі, для каго з'яўляецца сябрам. А нас такіх шмат. Мы просім у малітве, каб разлука не была болем на сэрцы тых, для каго св.п. Ганна была блізкім чалавекам. Для Лучая сёння гэта страта, страта яшчэ аднаго чалавека, які столькі высілкаў прыклаў, каб парафія ўзрастала ў ласцы. Няхай Бог будзе для яе ўзнагародай"!

Старшыня ККББ зачытаў таксама словы спачування, якія даслаў Апостальскі нунцый Антэ Ёзіч.

"Мама кс. пралата Аляксандра была цёплым і адкрытым чалавекам. Кожны святар у яе доме быў для яе сынам", – ад імя сабратоў у святарстве выказаў словы падтрымкі і салідарнасці кс. Мікалай Ціхановіч.

Пахаванне адбылося на мясцовых могілках у Лучаі.

***Марына Сінкевіч****, тэкст*
***Леанід Юрык****, фота*



# Памяць і ўдзячнасць

**Мінуў год з таго дня, калі ў вечнасць адышоў ксёндз Леанід Мозгель. 9 лістапада 2020 года, ва ўзросце 51 года, нястомны святар і шматгадовы пробашч Павяцкай парафіі, пазней пробашч Дзеркаўшчынскай парафіі, адышоў да Пана Бога на вечную ўзнагароду.**

Яго мама – спадарыня Станіслава – памерла на дзень раней – 8 лістапада.

Смерць святара і яго мамы стала вялікай стратай для ўсіх яго былых парафіян. Наш ксёндз Леанід пакінуў пасля сябе выразны, прыгожы і велічны след.

На жыццёвым шляху Бог дае людзей, якія тым або іншым чынам уздейнічаюць на нас, змяняюць наш спосаб існавання. Часта здараецца, што гэтыя людзі нават не заўсёды ўсведамляюць, як шмат зрабілі для іншых сваім жыццём, сваімі ўчынкамі, сваімі дасягненнямі. Можна ўпэўнена сцвярджаць, што ксёндз Леанід Мозгель у нашай мясцовасці быў знакавай асобай.

Мы вельмі абавязаныя ксяндзу Леаніду. Усё, што зроблена ў святыні і на прыкасцельнай тэррыторыі, – гэта яго праца, яго задума і кіраўніцтва. Дзе ён браў сілы і цярплівасць для спаўнення службы ў самых розных месцах на тэррыторыі парафій, сваёй і суседніх, для кантактаў з людзьмі, як давалася яму ўсё гэта – ведае толькі Сам Бог. Але вынік, плады працы відавочныя: духоўнае ажыўленне нас, яго парафіян. Мы па-сапраўднаму адчулі сілу малітвы і сталі адной вялікай сям'ёй.

Апошнія гады з ксяндзом у аграгарадку Павяцце пражывала яго мама Станіслава. Запомнілася нам яна сціплым, працавітым, малітоўным чалавекам. Гэта вобраз ідэала жанчыны-маці, жанчыны-апякункі. Мы яе вельмі паважалі і паспелі яе палюбіць.

Ксёндз Леанід быў чулы, ціхі, сціплы святар. Ён быў даступны для простых людзей, усім ішоў насустрач, умеў выслухаць кожнага і даць неабходную параду. За ўвагу да людзей яго паважалі і цанілі не толькі католікі, але і ўсе тыя людзі, якім пашчасціла ў сваім жыцці пазнаёміцца і хоць адзін раз паразмаўляць са святаром.

Ён быў чалавекам дзеяння, і думка ягоная заўсёды была ясная і зразумелая. Якое шчасце было прысутнічаць на Імшы і слухаць яго казанні! Як ксёндз Леанід знаходзіў заўсёды жывыя словы, што кранылі душы, падтрымлівалі і напаўнялі годнасцю?

Назаўсёды застануцца ў нашай памяці яго дар, яго ўменне перадаць усім прысутным у касцёле пачуццё радасці, узнёсласці на свята Божага Нараджэння, на Вялікдзень. Якімі добрымі і светлымі былі ягоныя вочы! Асветлены ўсмешкай, ён прамаўляў такія шчырыя, мудрыя, павучальныя святочныя казанні. Абароненыя яго малітвай, мы адчувалі сябе ўпэўнена, спакойна і радасна, быццам частка Божага бласлаўлення і поспеху, падараваных яму небам, перападала і нам, яго парафіянам.

Сапраўды, Божыя планы часта пераўзыходзяць чалавечае разуменне. Здавалася, што ксёндз яшчэ поўны энергіі і непаддасца хваробам. Бясспрэчна, Бог любіў яго, але даў яму кароткае жыццё, насычанае зместам, здзейсненымі задумамі і справамі.

Мы ніяк не можам змірыцца, не можам пазбавіцца адчування пякучай і непапраўна-запозненай віны перад ксяндзом Леанідам. Мы шмат чаго не паспелі. Не паспелі нават падзякаваць ксяндзу за яго малітвы, за яго давер, за яго разуменне нашых праблем, за цярпенне, за суцяшэнне нас усіх прыкладам веры. Мы не паспелі папрасіць прабачэння за нашу людскую няўдзячнасць, за нашу нястрыманасць, за наша неабдуманае слова або ўчынак, папрасіць прабачэння ад імя ўсіх, хто, магчыма, пакрыўдзіў святара, і што, напэўна, пакінула глыбокія раны на яго сэрцы…

І няхай застанецца ў нас назаўсёды яго радасная ўсмешка, светлая памяць пра яго!

У першую гадавіну смерці ксяндза Леаніда Мозгеля і яго мамы Станіславы мы дасылаем словы шчырага спачування і жалю ўсім тым, хто перажывае іх смерць, асабліва яднаемся ў малітве і дзелім смутак з Рамуальдам Мозгелем, усімі роднымі і блізкімі, аднавяскоўцамі ксяндза з вёсак Карэвічы і Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Няхай міласэрны Бог дадасць сілы, каб перанесці цяжар страты блізкіх асобаў, і як мага хутчэй прыме душы памерлых у свае Валадарствы.

І мы думаем, што ксёндз Леанід Мозгель з неба і цяпер выпрошвае ласкі для нас. Маем на гэта надзею і молімся пра супакой яго душы.



*Ад імя вернікаў,*
***Алена Сакалоўская***

# И Господь ее принял…

**22 октября 2020 года, год назад, в агрогородке Дуниловичи Поставского района умерла, ушла в иной мир Вероника Владимировна Абухович, дорогая тетя Вера.**

Прожила она непростую и довольно долгую жизнь (88 лет). И была доброй, отзывчивой и щедрой, оставила о себе самую светлую память.

Хрупкая, со следами былой красоты, женщина, неутомимая труженица, преданная Богу и костелу верующая, беспокойная и лучшая на свете мама и бабушка. Она дарила людям радость, доброту и участие. Ее не надо было просить дважды: сразу приходила на помощь, но чаще эту помощь сама же и предлагала. Делилась всем, что имела, и при этом приговаривала: "Надо делиться, надо делиться, а как же! Ведь Иисус Христос делился и нам заповедал". Несмотря на разные ситуации, не обижалась и не держала зла, с пониманием относилась к несовершенству и ограниченности человеческих возможностей вообще и своих, прежде всего. Очень часто произносила: "Надо прощать, надо прощать и я прощаю, все понимаю, все я понимаю".

Тихо и скромно, не выпячиваясь, не напоказ, служила она Богу, костелу и людям. И все, что она делала, делала самозабвенно. С искренней верой стремилась на Святую мессу и не было ни одного дня, чтобы она не присутствовала в костеле, если только по причине болезни. До последнего опекала Матерь Божию Лурдскую, установленную на костельной территории с правой стороны от центрального входа. Идя на мессу, сначала шла к Ней с приветствием и молитвами, а потом уже заходила в храм. Также и после мессы, прежде чем выйти за ворота храма, подходила Ее поблагодарить и попрощаться. Хлопотала об украшении территории, высаживала пионы, гладиолусы, розы, лилии, цинии, астры, убирала сорняки и поливала цветы. Особую духовную и материальную заботу проявляла в отношении священников и сестер-монахинь, встречала и принимала паломников, как могла, поддерживала издание газеты "Каталіцкі веснік" и небольшой католический приход в Ушачах, притом на постоянной основе. Ее словами были: "Ай, ай какая же бедная монашечка приехала к нам помогать", "А вот этот кседзок такой замученный, как же трудно служить".

Родилась Вероника Владимировна 2 июля, в прекрасный и особый день. Именно 2 июля Католическая церковь празднует Торжество Матери Божией Будславской, которую весьма почитают в Беларуси (и не только в Беларуси), и не только католики. В Будславе, в санктуарии Успения Божией Матери, находится чудотворная икона Божией Матери, паломничество к которой началось в 1588 году с явившегося и озарившего всю часовню необыкновенного небесного света. С 1647 года, с возвращения зрения 5-летнему Иосафату Тышкевичу (позднее – известному священнику ордена кармелитов), происходят там чудесные исцеления. 1 июля 1941 года окружившие живым кольцом и молящиеся всю ночь верующие спасли храм и икону от взрыва отступавшими войсками и, несмотря на войны и гонения, храм не закрывался, краски на иконе не выцветают и не тускнеют более четырех веков, а потоки людские из разных уголков Беларуси и других стран все более увеличиваются.

Готовилась, ожидала и всей душой и всем сердцем устремлялась в Будслав в дни торжества (дни фэста) и тетя Вера, чтобы поклониться Матери Божией, помолиться, попросить помощи и совета, поблагодарить Ее. Более того, она приглашала других присоединиться к паломничеству, а за тех, которые не могли, молилась там и передавала их интенции, пожертвования и просьбы.

22 октября – день смерти Вероники Владимировны, необыкновенный день. В этот день Католическая Церковь литургически вспоминает Святого Иоанна Павла II, официально вступившего на Престол Святого Петра 22 октября 1978 года, потрясающего святого современности, Великого Папы Римского, человека огромной любви к Богу и каждому, многих талантов и великолепных способностей, защитника и миротворца. Его похороны, как мы помним, стали самым массовым церемониальным событием во всей истории человечества.

Тетя Вера знала наизусть очень много молитв, любила петь и пела церковные песни на польском, белорусском и русском языках и даже в таком возрасте зачастую пела на мессах, особенно по будним дням. Искренне верила она в Бога, жила доброй надеждой, с радостью посещала храм, делилась всем, что имела, с трепетом относилась к посвященной жизни, ценила людей, берегла окружающую природу и жалела животных…

Веронику Владимировну Абухович вспоминаем с уважением, благодарностью и любовью, но особенно 2 июля, в день ее рождения, и 22 октября – в День ее рождения для вечности. Мы молитвенно просим Господа Бога о вечной радости для нее в Его Небесной Обители…



***Жанна Федина***

***Ад рэдакцыі.*** *Вераніка Абуховіч была сталым чытачом і ахвярадаўцам нашай газеты. Кожны месяц за яе і іншых ахвярадаўцаў "Каталіцкага Весніка" адпраўляецца св. Імша. Няхай добры Бог узнагародзіць св. п. Вераніку за дабро, якое яна рабіла на зямлі.*

# Святыя Місіі ў Мёрах



**З 3 па 10 кастрычніка ў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах прайшлі святыя Місіі, якія правялі айцы-рэдэмптарысты Віктар Бохан і Эдвард Пяцельчыц.**

Напачатку пробашч ксёндз Андрэй Кулік сустрэў місіянераў пры ўваходзе ў касцёл, а затым ля алтара звярнуўся з прывітальным словам да місіянераў і на час святых Місій сімвалічна перадаў уладу ў парафіі – святарскую стулу і ключы ад святыні.

Праграма Місій была даволі насычанай. Кожнае набажэнства распачыналася з запальвання пасхала – сімвала ўваскрэслага Езуса Хрыста, жывога Бога. Вечарам, а 21-ай гадзіне, вернікі збіраліся на Марыйны заклік, падчас якога супольна маліліся на ружанцы за нашу краіну, парафію, сем'і, дзяцей. А потым, запаліўшы ад пасхала прынесеныя свечкі, спявалі песні ў гонар Марыі.

Кожны дзень меў сваю тэматыку і вылучаўся асаблівымі набажэнствамі. У панядзелак пасля вячэрняй святой Імшы адбыўся Крыжовы шлях па вуліцах горада. Крочачы пакутным шляхам Хрыста, мы яшчэ раз задумаліся над рэчамі, якія сталі звыклымі, але найбольш аддаляюць нас Бога. Па чарзе несучы крыж ад стацыі да стацыі, вернікі змянялі адно аднаго: мужчыны, жанчыны, моладзь, дзеці. Да апошняй стацыі крыж неслі святары.

У трэці місійны дзень не было Эўхарыстыі, а цэлебравалася пакутнае набажэнства. Асабліва кранальным стаў этап перапрашэння за грахі. Пробашч парафіі Андрэй Кулік папрасіў прабачэння ў парафіяльнай супольнасці за свае ўчыненыя грахі і занядбанні, а таксама правіны іншых святароў, якія працавалі ў парафіі. У знак пакоры перад Панам Богам ён лёг крыжам на падлогу перад Найсвяцейшым Сакрамантам, а парафіяльная супольнасць на каленях перапрашала за грахі. Да Пана Бога ўзносіліся не толькі словы перапрашэння, але і падзякі: за дар жыцця, за тыя ласкі, якія мы маем, за магчымасць прыняцця сакрамантаў.

Чацвёрты дзень святых Місій асаблівым чынам быў накіраваны на яднанне чалавека з Богам. На працягу дня вернікі мелі магчымасць прыступіць да сакраманту споведзі, каб ачысціць свае сэрцы і годна прыняць Езуса Хрыста.

На наступны дзень падчас святой Імшы адбывалася адарацыя Крыжа. Пасля навукі місійнай кожны прысутны, трымаючы правую руку на сэрцы, у цішы выраксця граху і вызнаў сваю веру ў Бога. А потым, стоячы на каленях перад Крыжам, змог сказаць важныя для сябе словы: "Езус – мой Пан".

Святочным і радасным стаў шосты дзень Місій, які асаблівым чынам быў прысвечаны сям'і. У гэты дзень адбылося аднаўленне сужэнскіх абяцанняў. Пары рознага ўзросту, з розным сямейным стажам, некаторыя разам з дзецьмі прыйшлі, каб адзначыць свята сям'і. Трыццаць сужэнскіх параў, гледзячы адно аднаму ў вочы і трымаючы сужэнца за руку, паўтарылі словы прысягі, папрасілі прабачэння адно ў аднаго і выказалі словы любові.

На наступны дзень на ранішняй Эўхарыстыі быў удзелены сакрамант Намашчэння хворых. Вернікі старэйшага пакалення, а таксама хворыя праз намашчэнне святым алеем узмацніліся духоўна, каб па-хрысціянску прыняць хваробы і цярпенні.

На вячэрняй святой Імшы парафія была даручана апецы Панны Марыі праз Акт прысвячэння.

10 кастрычніка адбылося ўрачыстае завяршэнне святых Місій. Распачалася Эўхарыстыя ўстанаўленнем місійнага крыжа на цвінтары касцёла. Пробашч парафіі ксёндз Андрэй Кулік асвяціў місійны крыж, а таксама крыжы, якія прынеслі парафіяне. Трымаючы крыж высока ў руках, вернікі памаліліся за парафію, за сем'і, за дзяцей і моладзь, за тых, хто жадаў, але не змог удзельнічаць у Місіях, за людзей хворых і самотных, а таксама за тых, хто свядома не скарыстаўся Божай ласкай, каб яны змаглі знайсці шлях да Бога.

Завяршылася Эўхарыстыя малітвай у інтэнцыі Святога Айца і бласлаўленнем місійнымі крыжамі.

На заканчэнне Імшы маладыя людзі ад імя ўсёй парафіі выказалі словы ўдзячнасці айцам-рэдэмптарыстам за правядзенне Місій і ўручылі ім кветкі і падарункі.

*Жанна Закрэўская,*
*kascelmery.by*

# 20 год парафіі і 5 год кансэкрацыі касцёла адзначылі ў Лёзне

**У суботу, 25 верасня, у самым усходнім кутку нашай дыяцэзіі – парафіі святога айца Піа ў Лёзне – адбылося свята. А нагодаў для святкавання і ўзнясення падзякі Пану Богу было дастаткова.**

■ **Вікторыя Арфеева**, *тэкст*; **Іван Каташук**, *фота*

Па-першае, гэта парафіяльны фэст – урачыстасць святога айца Піа. Па-другое, дваццацігоддзе заснавання парафіі. Яе стварылі ў жніўні 2001 г. Згодна з рашэннем біскупа Уладзіслава Бліна, арганізацыя новай парафіі ў Лёзне была даручана ксяндзу Андрэю Бочару MS – пробашчу парафіі Маці Божай з Ля Салет у Віцебску.

І па-трэцяе, пяцігоддзе асвячэння касцёла, якое было здзейснена біскупам Алегам Буткевічам 25 верасня 2016 года.

Пробашч парафіі ксёндз Аляксей Ляшко запрасіў узначаліць цэлебрацыю святой Імшы дэкана Віцебскага дэканата ксяндза доктара Валерыя Марціноўскага, пробашча катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску.

Да святкавання далучыліся і шматлікія і ганаровыя госці: ксёндз-канонік Андрэй Аніскевіч (дырэктар Дабрачыннага каталіцкага таварыства Caritas Беларусь і Caritas Віцебскай дыяцэзіі), ксёндз-канонік Віктар Місевіч (канцлер Віцебскай курыі), айцец Кляменцій Верт SJ (эканом Віцебскай дыяцэзіі), айцец Віктар Жук SJ (пробашч парафіі святога Уладзіслава ў Віцебску), ксёндз Антон Лагунёнак (пробашч парафіі святога Антонія Падуанскага ў Віцебску), ксёндз Раман Мурзіч (пробашч парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы), сёстры законныя, якія нясуць паслугу ў Віцебску, а таксама парафіяне з віцебскіх касцёлаў. Урачыстасць упрыгожваў спеў хору віцебскай катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага.

Казанне падчас урачыстасці прамовіў ксёндз доктар Валерый Марціноўскі. Ён звярнуў асаблівую ўвагу на жыццё святога айца Піа, якое было цесна звязана з Евангеллем. Іншымі словамі кажучы, Евангелле стала жыццём айца Піа. Гэта было бачна ў тым, як айцец Піа цэлебраваў святую Імшу, як яднаў грэшнікаў з Богам у сакраманце святой споведзі, як размаўляў з людзьмі, як рабіў справы міласэрнасці.

Пасля святой Імшы адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, і ўсе прысутныя памаліліся Літаніяй да святога айца Піа, просячы яго заступніцтва і прадстаўляючы яму свае падзякі і просьбы. Дзякавалі вернікі перадусім за дар веры, за дар парафіяльнай святыні, а таксама за дар святароў, якія неслі душпастырскую паслугу ў Лёзненскай парафіі.

На заканчэнне парафіяльнай урачыстасці адбылося пасвячэнне фігуры Маці Божай, якое здзейсніў ксёндз-канонік Віктар Місевіч і які таксама ад імя біскупа Алега выказаў асаблівыя словы падзякі парафіянам Івану Ходышу і Мікалаю Красаўцаву за актыўны ўдзел у жыцці парафіяльнай супольнасці.





Фігура Маці Божай усталяваная парафіянамі звонку святыні як знак падзякі Пану Богу за дваццаць гадоў існавання парафіі, што з'яўляецца месцам асаблівай малітвы на ўсходнім ускрайку дыяцэзіі. Па шматгадовай традыцыі пасля набажэнства ўсіх прысутных чакаў смачны пачастунак.

# Пляценне ружанцаў як хобі: інтэрв'ю з сястрой Наталляй Дрэмо

**У кастрычніку Касцёл асабліва напаўняецца ружанцовай малітвай, а вернікі актыўна ўдзельнічаюць у розных тэматычных конкурсах, акцыях і майстар-класах па стварэнні ружанцаў. Сястра Наталля Дрэмо, палатынка з Воранава, таксама займаецца пляценнем ружанцаў. Манахіня адказала на некалькі пытанняў "Каталіцкага Весніка" і распавяла пра сваё захапленне.**





**– Сястра Наталля, калі Вы пачалі займацца стварэннем уласных ружанцаў?**

– Ствараць ружанцы першы раз я паспрабавала ў навіцыяце, калі знаходзілася ў Польшчы. Мне было вельмі цікава займацца гэтай справай. Заўсёды ёсць цудоўная магчымасць каму-небудзь падарыць уласна створаны ружанец. Потым з'явілася шмат іншых абавязкаў і не было часу займацца пляценнем. Аднак у гэтым годзе падчас рэкалекцый пад натхненнем Духа Святога я адчула: у штодзённасці таксама патрэбны адпачынак. І тады з Божай дапамогай зразумела, што менавіта маё захапленне ружанцамі дапаможа мне.

**– Раскажыце крыху пра тое, які матэрыял Вы выкарыстоўваеце, па якой тэхніцы працуеце?**

– Сам ружанец робіцца са шнура, які мае назву "сутаж". Сутаж – гэта шчыльны, плоскі шнур, які падзелены на дзве часткі. Кожная з іх аплецена каляровай або металізаванай ніткай. Абедзве часткі падзеленыя "жалабком". Пасля шнура я падбіраю крыжык і распачынаецца праца.

**– Каб пэўны выраб быў зроблены "з душой", кожны майстар выкарыстоўвае сваю ўласную фішку. А што незвычайнага ў ружанцах, зробленых Вамі?**

– Кожны створаны ўласнаручна ружанец для мяне – гэта не проста штучны выраб і тым больш не бізнес. Калі нейкі чалавек просіць зрабіць ружанец, то я, плятучы кожную маленькую ружачку, малюся за гэту асобу.

**– Можа, ёсць штосьці яшчэ, што адрознівае Вашы ружанцы ад іншых?**

– Так. Калі робіш такі ружанец, то ў ім змяшчаюцца акурат трыццаць тры рухі, якія сімвалізуюць колькасць гадоў знаходжання на зямлі Езуса.

**– Колькі часу Вы ў асноўным траціце на адзін выраб?**

– Каб зрабіць адзін ружанец патрэбна каля трох гадзін.

**– Цікава, колькі за ўвесь час вы сплялі ружанцаў?**

– Цяжка палічыць, але дзесьці больш за сто.

**– Якімі творчымі рэчамі Вы яшчэ займаецеся?**

– Насамрэч я вельмі люблю займацца творчасцю. Раблю ўсё, што неабходна і патрэбна ў залежнасці ад сітуацыі. А таксама, калі хтосьці просіць, то па меры сваіх сіл і ідэй дапамагаю. Я раблю дэкарацыі, дэкор з кветак, сервірую святочныя сталы, часам фуршэт, афармляю падарункі, рабіла таксама розныя паштоўкі. Праводжу часам для дзяцей майстар-класы.

**– Нездарма кажуць, што творчы чалавек таленавіты ва ўсім...**

– Дзякуй вялікі.

**– Чым для Вас з'яўляецца малітва на ружанцы?**

Кастрычнік – гэта асаблівы час, калі ў нашых руках пераплятаюцца маленькія пацеркі "Вітай, Марыя". Час, калі мы можам праз Марыю стаць яшчэ бліжэй да Яе Сына! Разважаючы над часткамі святога ружанца, мы разважаем над Божым словам, якое не раз таксама пераплятаецца і ў нашым жыцці ў розныя моманты радасці або болю. А яшчэ малітва на ружанцы з'яўляецца магутнай зброяй. Калісьці святы Ян Марыя Віянэй сказаў: "Ад аднаго "Вітай, Марыя", добра сказанага, трасецца ўсё пекла!"

**– Як можна звязацца з Вамі пры жаданні набыць ружанец?**

Набыць такі ружанец можна, патэлефанаваўшы мне па нумары: +375 (29) 524-41-55. Па магчымасці я зраблю.

# Топ-5 цікавых фактаў пра ружанец

**Самы доўгі ружанец**



Незвычайны доўгі ружанец знаходзіцца ў польскім санктуарыі ў Кляштарнай Гары. Ідэя стварэння гэтага ружанца нарадзілася ў 80-х гадах XX стагоддзя. Ён з'яўляецца ўнікальным таму, што да яго штогод 1 студзеня дадаецца адна пацерка. На кожнай з іх выгравіраваны адзін год пасля аб'яўлення Маці Божай, якое адбылося ў 1079 годзе. З тых часоў прайшло 942 гады, таму і пацерак на ружанцы ўжо 942. Ён настолькі вялікі, што не змяшчаецца нават у легкавую машыну.

**"Жывы ружанец"**



Адзін з самых вялікіх "Жывых Ружанцаў" у свеце склалі ўдзельнікі малітоўнай сустрэчы пры парафіі ў польскім горадзе Велюнь.

**"Найбольшая калекцыя ружанцаў"**



Найбольшая ў свеце калекцыя ружанцаў знаходзіцца ў рэгіянальным музеі Columbia Gorge Interpretive Center ў штаце Вашынгтон. Калекцыя ўяўляе сабой справу жыцця ўжо памерлага Дональда Браўна.

На выставе можна ўбачыць ружанцы са слановай косці, дрэва, шкла або рэдкіх і каштоўных матэрыялаў. Сярод прадстаўленых ёсць ружанцы, бласлаўлёныя айцом Піа і Папам Янам Паўлам II. Калекцыю дапаўняе ружанец, які насіў Джон Кэнэдзі падчас Другой сусветнай вайны, калі будучы прэзідэнт ЗША знаходзіўся на фронце. Дональд Браўн падкрэсліваў, што калекцыя была створана з цікавасці, якая з цягам часу перайшла ў глыбокую пабожнасць.



**"Паветраныя ружанцы"**



Для католікаў розных краін ужо традыцыяй стала запускаць ружанцы, зробленыя з шароў, у неба з нагоды пэўнага свята, юбілею або нейкай важнай падзеі. Заўсёды сімвалічным з'яўляецца той момант, калі разам з ружанцам да Бога ў неба ляцяць просьбы і малітвы вернікаў.



**"Ружанец, які свеціцца ноччу"**

У польскай мясцовасці Всоля ў снежні 2017 года на сцяне вежы касцёла быў усталяваны вялікі ружанец, які свеціцца ноччу.

*Старонку падрыхтавала* ***Ірына Радзевіч***

# У Віцебску распачаўся дыяцэзіяльны этап Сіноду Біскупаў



**10 кастрычніка Святы Айцец Францішак урачыстай цэлебрацыяй святой Імшы ў ватыканскай базіліцы Святога Пятра адкрыў двухгадовы Сінадальны шлях паўсюднага Касцёла, які завершыцца ў кастрычніку 2023 года Асамблеяй Сіноду Біскупаў у Рыме. Дэвіз Сіноду – гэта камунія, удзел і місія. Папа запрашае шляхам малітоўнай засяроджанасці паразважаць над актуальным станам Касцёла і яго будучыняй не толькі біскупаў і святароў, але наогул усіх ахрышчаных людзей.**

17 кастрычніка біскуп Алег Буткевіч падчас св. Імшы ў катэдры Езуса Міласэрнага ў Віцебску распачаў дыяцэзіяльны этап Сіноду ў Віцебскай дыяцэзіі. Ён асабіста зачытаў слова біскупа Аляксандра Яшэўскага SDB – Старшыні Сінадальнай Камісіі пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Разважаючы над навучаннем Папы Францішка, біскуп Яшэўскі падкрэсліў у сваім пасланні чатыры асноўныя моманты, над якімі павінен будзе задумацца Сінод.

Па-першае, гэта прыярытэт фармацыі як духавенства, кансэкраваных асобаў, так і свецкіх вернікаў. Вельмі важна сёння клапаціцца і развіваць якасную фармацыю ў Касцёле. А для гэтага, напэўна, трэба будзе глыбока пераглядзець структуры і метады падрыхтоўкі духавенства і свецкіх у Касцёле.

Па-другое, умацаванне калегіяльнасці і салідарнасці духавенства, кансэкраваных асобаў і свецкіх вернікаў Касцёла. Жывому арганізму Касцёла недастаткова проста мець паасобных лідараў, а неабходна ствараць сетку рэгіянальных "сведчанняў", якія, гаворачы ў адзін голас, забяспечвалі б усюды не ўніфармізм, а сапраўднае адзінства ў багацці разнастайнасцяў.

Па-трэцяе, памяць пра пастаянны заклік да місіі і пра неабходнасць пастырскага навяртання. Сёння свету неабходны такі Касцёл, які здольны нанова адкрыць мацярынскае ўлонне міласэрнасці.

Па-чацвёртае, тое, што Касцёл дзейнічае ў грамадстве і не можа быць выключаны з яго. Адукацыя, ахова здароўя, сацыяльнае служэнне, тэма справядлівасці, свабоды, узаемапавагі, дабрачыннасці і многае іншае – гэта пытанні і выклікі, на якія Касцёлу ёсць што сказаць.

Біскуп Алег Буткевіч падчас святой Імшы ў катэдры падкрэсліў, што плённасць Сіноду будзе залежыць ад нашай адкрытасці на святло Духа Святога. Ён заахвоціў усіх прысутных маліцца за добрыя плады гэтага Сіноду ў Віцебскай дыяцэзіі і ва ўсім паўсюдным Касцёле.

*Кс. Віктар Місевіч, тэкст*
*Анатоль Бандарчук-Вошлаў, фота*



# Біблійная геаграфія



**Які горад быў знішчаны за грахі жыхароў? Што адбылося ў Вавілоне? Чым знакамітая пустыня Сінай? Праверце, ці добра вы ведаеце, дзе адбываліся вядомыя біблейскія падзеі! Прайдзіце новы тэст "Каталіцкага весніка".**

**1 Якая з гэтых вядомых падзей адбылася ў Гефсіманскім садзе?**



А, Спатканне цара Саламона і царыцы Саўскай
Б. Пацалунак Юды
В. Езус пракляў бясплодную смакоўніцу

**2 Якая біблійная падзея адбылася на Аліўнай гары?**



А. Ахвярапрынашэнне Абрагама
Б. Унебаўзяцце прарока Іллі
В. Унебаўшэсце Пана

**3 Які горад быў знішчаны за грахі жыхароў, згодна са Святым Пісаннем?**



А. Вавілон
Б. Гамора
В. Карынф

**4 Якая вядомая падзея адбылася каля дуба Мамрэ шмат гадоў таму?**



А. Арханёл Габрыэль абвясціў Дзеве Марыі аб нараджэнні ў Яе Богадзіцяці
Б. Аб'яўленне Абрагаму трох анёлаў
В. Апошняя Вячэра

**5 Якая біблійная падзея адбылася ў Вавілоне?**



А. Пір цара Валтасара
Б. Каін забіў Абэля
В. Пабудаваны каўчэг

**6 Родны горад апосталаў Пятра, Андрэя, Піліпа?**

А. Бэтсаіда
Б. Кафарнаум
В. Бэтанія



**7 Назавіце горад, у якім Езус Хрыстус ператварыў ваду ў віно?**



А. Бэтлеем
Б. Бэтанія
В. Кана Галілейская

**8 Гара, на якой перамяніўся Хрыстос?**



А. Сінай
Б. Табор
В. Галгота

**9 Якая біблійная падзея адбылася на рацэ Іардан?**



А. Хрост Езуса Хрыста
Б. Вада ў рацэ ператварылася ў кроў
В. Прарока Ёну праглынула велізарная рыба

**10 Назва гары, на якой Госпад праз Майсея даў дзесяць прыказанняў?**



А. Сінай
Б. Сіён
В. Табор

**Правільныя адказы на віктарыну: старонка 16**

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Арфеева***



## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне: + 375 29 78 51 298



# Каляндар на лістапад

**Лістапад** – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца. Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не заканчыцца, а толькі зменіцца, то павінны таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але маем магчымасць спаткацца ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.



**1 лістапада – урачыстасць Усіх Святых.** У гэты дзень успамінаюць не толькі тых, хто быў афіцыйна абвешчаны святым або благаслаўлёным, але і невядомых нам святых. Можна сказаць, што першага лістапада ўшаноўваюцца адразу ўсе тыя, хто здабыў вечнае шчасце.

Карані дня Усіх Святых ідуць у IV стагоддзе. Тады ў Антыёхіі ўшаноўвалі памяць шматлікіх пакутнікаў, імёны якіх не былі вядомыя. У 610 годзе, калі Папа Баніфацый IV атрымаў ад імператара Рымскай Імперыі старажытную язычніцкую святыню Пантэон, туды былі перанесеныя многія рэліквіі пакутнікаў. І гэты будынак асвяцілі як храм Маці Божай Пакутнікаў.

З датай згаданай падзеі было звязана рымскае свята Усіх Святых. Спачатку ўшаноўваліся толькі Дзева Марыя і тыя, хто памёр за веру. У наступныя стагоддзі ўзнік культ "вызнаўцаў" – духоўных пакутнікаў. Таксама як пакутнік сваёю смерцю станавіўся сведкам Хрыста, так вызнаўца даваў сведчанне сваім жыццём. Гэтая ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.

**2 лістапада – успамін усіх памерлых вернікаў.**



У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: быць у стане асвячальнай ласкі, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыі святога Айца.



**11 лістапада – успамін св. Марціна Турскага, біскупа.**
Святы нарадзіўся ў 316-ым ці ў 317-ым гг. у Панонії (сучасн. Венгрыя) у сям'і язычнікаў і стаў вайскоўцам. Аднойчы на вуліцы св. Марцін убачыў жабрака, цела якога было толькі ледзь прыкрытае лахманамі, нягледзячы на холад. Малады вайсковец выцягнуў меч і, разрэзаўшы ім свой плашч, палову аддаў таму жабраку. Уначы святы ўбачыў Езуса, Які быў захінуты ў палову яго плашча. Пад уражаннем ад убачанага, ён пакінуў вайсковую службу і прысвяціў сябе служэнню Хрысту праз абвяшчэнне Божага слова язычнікам. Сярод простых людзей святы карыстаўся папулярнасцю, і быў абраны на пасаду біскупа горада Тура. Але, стаўшы біскупам, святы вызначаўся ўбоствам і жыў не ў біскупскім палацы, а ва ўбогай пустэльні непадалёк ад горада.

Святы памёр 8 лістапада 397 г. Ён з'яўляецца апекуном вайскоўцаў, краўцоў, бедных і жабракоў, а таксама хатняй жывёлы і птушкі, асабліва коней і гусей. На свята ў яго гонар у многіх краінах гатуюць традыцыйнага гусака.



**12 лістапада – урачыстасць святога Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка, галоўнага апекуна Віцебскай дыяцэзіі.** Знакаміты ўніяцкі дзеяч паходзіў з Уладзіміра Валынскага, з мяшчанскай сям'і. Нарадзіўся каля 1580 года. Юнаком па жаданні бацькоў накіраваўся ў Вільню, каб авалодаць прафесіяй купца. У Вільні ён сутыкнуўся з руплівымі духоўнікамі і ўключыўся ў інтэнсіўнае жыццё і справы маладой уніі. У 1604 годзе прыняў базыліянскі габіт, а пазней – пасвячэнні перадд'яканату і дыяканату. Адначасова распачаў тэалагічнае служэнне, а ў 1609 годзе прыняў святарскае пасвячэнне і быў прызначаны апекуном навіцыяту. Настаяцелі даверылі яму новыя, усё больш адказныя пасады і працу. У 1613 годзе ён быў прызначаны архімандрытам у касцёле Найсвяцейшай Тройцы ў Вільні, а ў 1617-ым атрымаў прызначэнне на месца полацкага каад'ютара.

12 лістапада 1623 года быў забіты ў часе барацьбы паміж абаронцамі і праціўнікамі ўніі. Цела арцыбіскупа ўтапілі ў Дзвіне. Беатыфікацыю здзейсніў Папа Урбан VIII у 1642 г., а кананіэацыю – Папа Пій XI у 1867 г. Рэліквіі, знойдзеныя ў 1916 годзе ў Бялай Падляскі, былі перавезеныя ў Вену, а потым у базыліку св. Пятра ў Рыме, дзе і захоўваюцца.



**16 лістапада – успамін Маці Божай Вастрабрамскай.** У кожнай хрысціянскай краіне ёсць абраз Маці Божай, які з'яўляецца сімвалам абароны і заступніцтва народа. Вось і ў Літве ёсць ікона Маці Божай, якая ўшаноўваецца каталікамі і праваслаўнымі з асаблівай і глыбокай павагай. Гэты абраз знаходзіцца ў капліцы Вострай Брамы ў Вільні. Тут у Панны Марыі шукаюць суцяшэння не толькі мясцовыя жыхары, але і пілігрымы з многіх краін. Урачысты акт каранацыі абраза паводле дэкрэта Папы Пія XI быў здзейснены 2 ліпеня 1927 года Мітрапалітам Варшаўскім кардыналам Аляксандрам Какоўскім у прысутнасці ўсяго польскага епіскапату, Юзафа Пілсудскага і Прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага перад катэдральным саборам пад праліўным дажджом. Пасля каранацыі ў 1928 годзе абраз быў змешчаны ў капліцы ў адмысловым металічным кантэйнеры, які засцерагае яго ад пажараў і злодзеяў. Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні шануецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы. Святочным днём ушанавання іконы лічыцца 16 лістапада. Штогод у перыяд святочнага тыдня здзяйсняюць паломніцтвы ў Вільню на свята Маці Божай Вастрабрамскай тысячы пілігрымаў.



**21 лістапада – урачыстасць Пана Нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.** Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій XI энцыклікай "Quas primas" 11 снежня абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі трацілі ўладу, а людзі яе здабывалі. У такім становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцяў і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста. Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда пра тое, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб у свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.



**30 лістапада – свята св. Андрэя, апостала.** Паходзіў з Бэтсаіды (Галілея). Быў братам Сымона-Пятра. Абодва яны былі рыбакамі і жылі ў Капернауме, на беразе Генісарэцкага возера. Згодна з Евангеллем паводле св. Яна, Андрэй спачатку належаў да супольнасці вучняў св. Яна Хрысціцеля, а потым па парадзе свайго настаўніка пайшоў за Езусам, узяўшы з сабою брата. Такім чынам Андрэй стаў першым вучнем Хрыста, і таму ва ўсходняй традыцыі яго называюць "Першазваным". 30 лістапада 60 года ў грэцкім горадзе Патрасе ён прыняў мучаніцкую смерць праз укрыжаванне: апостал быў прыбіты да крыжа ў форме літары "Х" – т. зв. крыжа св. Андрэя. У Сярэднявеччы яго рэліквіі трапілі ў Амальфі, у Італію, і там спачываюць у катэдры св. Андрэя да сённяшняга дня, атачаныя вялікай пашанай. Пазней галава святога была перавезеная ў Рым, але ў 1964 г. Папа Павел VI вярнуў каштоўную рэліквію ў Патрас.

Свята св. Андрэя з'яўляецца важнай датай у народным календары, з якой звязана шмат традыцый (напр., Андрэйкі). Святы – апякун рыбакоў, плыўцоў, добрага сужэнства і дзяцей.

*Каляндар падрыхтавала **Вікторыя Арфеева***

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Бровкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца. Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00. Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77**
**кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11**
**сп. Яўгенія**

## Навошта маліцца на ружанцы?



Адскануй QR-код сваім смартфонам, каб паслухаць адказ біскупа Роберта Бэрана на гэтае пытанне.



# Non omnis moriar: адзінства часовага і вечнага жыцця

*Катэхеза с. Дар'і Галубковай OV*

**З розных нагодаў, падчас звычайнай гутаркі ці нават у тэкстах папулярных песень даволі часта можна пачуць фразы накшталт "жыццё толькі адно", "адзін раз жывём", "колькі таго жыцця". Звычайна яны заклікаюць жыць тут і цяпер, не марнаваць магчымасцяў, браць ад жыцця як мага больш карысці ды прыемнасцяў. Тыя, хто так гавораць, маюць на ўвазе зямное, часовае існаванне, якому калісьці незваротна прыйдзе канец. Аднак мы, хрысціяне, верым, што душа чалавека несмяротная, а жыццё ў смяротным целе з'яўляецца падрыхтоўкай да вечнага жыцця, а нават больш за тое: што часовасць і вечнасць – гэта два этапы аднаго жыцця, якое ніколі не праміне.**

Старажытнарымскаму паэту Гарацыю (I ст. да н.э.) належыць славуты выраз: "Non omnis moriar" ("Я паміраю не ўвесь"). Яго неаднойчы згадваў і святы Папа Ян Павел II, разважаючы пра несмяротнасць чалавечай душы і вечнае жыццё. У аўтабіяграфіі ён напісаў такія словы: "Чалавечае жыццё – гэта пераход. Гэтае жыццё не зачынена цалкам паміж датай нараджэння і датай смерці. Яно адкрыта на канчатковае здзяйсненне ў Богу. Кожны з нас балюча адчувае замкнёнасць жыцця, мяжу смерці. Кожны з нас нейкім чынам усведамляе, што чалавек не змяшчаецца без рэшты ў гэтых межах, што без рэшты ён не можа памерці".

Чым жа ёсць жыццё вечнае? "Я прыйшоў, каб вы мелі жыццё, і мелі ў дастатку" (Ян 10,10). Так прадстаўляе Пан Езус сваю збаўчую місію і пакліканне да вечнага жыцця, якое ён дае кожнаму чалавеку. Ён таксама паказвае нам, у чым заключаецца гэтае жыццё, звяртаючыся да Айца ў малітве: "А вечнае жыццё ў тым, каб пазналі Цябе, адзінага праўдзівага Бога і Таго, Каго Ты паслаў, Езуса Хрыста" (Ян 17,3). Такім чынам, вечнае жыццё – гэта пазнанне Бога і Ягонага Сына, пры чым не толькі на інтэлектуальным узроўні, бо пазнаць – значыць жыць у адзінстве, камуніі з Айцом, Сынам і Духам Святым. Ужо цяпер тут, на зямлі, чалавек праз веру ў Бога ўдзельнічае ў гэтай камуніі, якая дасягне сваёй паўнаты пасля пераходу ў вечнасць. Перад абліччам гэтай праўды могуць нарадзіцца пытанні пра сэнс часовага жыцця. Калі я пакліканы да жыцця ў камуніі з Богам, то якое ж значэнне мае жыццё зямное? Ці гэта проста чаканне таго, што наступіць пасля смерці? Ці гэта час, каб запрацаваць на вечнасць? А можа, яно ўвогуле не мае значэння і трэба ім пагарджаць?



Перадусім трэба памятаць, што ёсць толькі адно жыццё, хоць і складаецца яно з пэўных этапаў. Жыццё, якое мы атрымалі аднойчы, ніколі не заканчваецца і знаходзіць здзяйсненне ў Богу. Часовае жыццё – гэта пачатковы этап і інтэгральная частка поўнага і непадзельнага чалавечага існавання. Менавіта перспектыва вечнага жыцця надае сэнс жыццю зямному.

На жаль, нават хрысціяне часта моцна раздзяляюць гэтыя этапы. Калі мы ставімся да вечнага жыцця як да чагосьці, што толькі мае наступіць, а не як да чагосьці, што ўжо трывае, лёгка трапіць у дзве крайнасці. Адна з іх праяўляецца ў тым, што чалавек жыве толькі сённяшнім днём, увогуле не думае пра вечнае жыццё, бо ў ягоным разуменні – гэта рэчаіснасць, якая невядома калі наступіць, а можа, і ўвогуле не надыдзе. У сучасным свеце, дзе пануюць матэрыялізм і культура спажывання, такі падыход асабліва актуальны. Чалавек, уцягнуты ў праблемы часовага жыцця, губляе з вачэй другі этап – жыццё пасля смерці.

Іншая крайнасць заключана ў тым, што чалавек, які верыць у Бога і несмяротнасць душы, можа канцэнтравацца выключна на будучым жыцці і адмаўляцца ад удзелу ў часовых справах гэтага свету. Ён быццам бы намагаецца "перачакаць" гэтую зямную пілігрымку, каб не паддацца дрэнным уплывам і спакусам і напэўна збавіць сваю душу.

Абедзве вышэйзгаданыя паставы з'яўляюцца няслушнымі, а нават спрэчнымі з Божым Аб'яўленнем. І хоць Святое Пісанне перасцерагае нас: "Не любіце свету, ні таго, што ў свеце. Калі хто любіць свет, у тым няма любові Айца" (1 Ян 2,15), то адначасова яно паказвае нам свет як месца аб'яўлення Божай любові, а зямны час – як час збаўлення (2 Кар 6,1).

Хрысціянін – гэта той, хто імкнецца да вечнасці, але робіць гэта жывучы на зямлі, узрастаючы ў любові да Бога і бліжняга. Вучань Хрыста не адмаўляецца зусім ад гэтага свету, аднак не дазваляе часовым рэчам цалкам паглынуць яго, бо яны маюць значэнне настолькі, наколькі служаць чалавеку і яго канчатковаму пакліканню – адзінству з Богам. Менавіта перспектыва вечнага жыцця надае сэнс зямным справам і рэчам. Важную ролю ў нашым часовым жыцці адыгрывае хрысціянская надзея – пастава, якая дазваляе нам чакаць канчатковага здзяйснення і не дае замкнуцца выключна ў зямных клопатах. У той жа час надзея не мае нічога супольнага з пасіўным чаканнем, а наадварот, пабуджае да актыўнасці, да таго, каб рабіць добрыя справы, выпраўляць памылкі, старанна выконваць абавязкі. У хвіліны ж роспачы і смутку, у момант расстання з блізкімі людзьмі надзея прыгадвае нам, што чалавек не памірае без рэшты: штосьці ў ім нязломна трывае.

Жыццё ў чалавека сапраўды толькі адно і адзінае. Адно, бо часовае і вечнае – гэта два этапы аднаго жыцця. Адзінае, бо іншага ў нас ніколі не будзе. Таму варта жыць добра, бо жыццё не скончыцца разам з зямным існаваннем, бо яно мае сэнс нашмат глыбейшы, чым хвілінны поспех ці прыемнасць. Бо, як навучаў усё той жа Ян Павел II, нельга любіць, жыць і паміраць на спробу.

# Націск як важны чыннік культуры маўлення

**У папярэдніх нумарах мы разгледзелі некаторыя актуальныя аспекты функцыянавання сучаснай беларускай мовы, у прыватнасці, прааналізавалі працэсы пашырэння яе лексічнага складу праз неалагізмы і паспрабавалі асвятліць тэндэнцыі да ўзбагачэння яе сінанімічных рэсурсаў. Сёння мы пагаворым пра яшчэ адзін надзвычай важны кампанент нашай мовы – націск.**

Нагадаем, што націскам называецца інтанацыйнае вылучэнне аднаго са складоў слова. Зразумела, калі ў гэтым слове ёсць некалькі складоў. Склад, на які прыпадае націск, называецца націскным. Усе ж астатнія – ненаціскныя.

У лінгвістыцы вылучаюцца тры асноўныя тыпы націску, або акцэнтуацыі: *сілавы націск*, або *дынамічны*; *музычны націск*, або *танічны* (як у літоўскай ці кітайскай мовах), і *колькасны*. У беларускай мове, як, зрэшты, і ў многіх іншых славянскіх мовах (напрыклад, ва ўкраінскай, польскай, рускай) націск *сілавы*. Гэта значыць, што націскны гук адрозніваецца ад такога самага ненаціскнога трыма характарыстыкамі: папершае, ён даўжэйшы; падругое, ён вышэйшы тонам; па-трэцяе, вымаўляецца з большаю сілаю голасу.

У беларускай мове націск *свабодны*, г.зн. не замацаваны за нейкім пэўным складам. Але ў некаторых мовах націск *фіксаваны*, г.зн. прыпадае звычайна на адзін і той жа склад. Так, у чэшскай, фінскай, латышскай мовах націск традыцыйна на першым складзе, у польскай – на перадапошнім, у французскай і турэцкай – на апошнім.

Свабодны націск можа быць *рухомы* і *нерухомы*. Калі ва ўсіх словаформах парадыгмы месца націску не мяняецца – ён *нерухомы*, напрыклад: *дрэ́ва – дрэ́вы*. І наадварот: *рухомым* націск будзе тады, калі ў пэўных формах ён перамяшчаецца на іншы склад. Напрыклад: *сын – сын**ы***, *мох – імх**і***, *страх**а** – стр**э**хі*.

Ёсць пэўныя словы, якія маюць варыянтны націск. У такіх словах націск можа быць на розных складах, і пры гэтым не парушаюцца літаратурныя нормы: *л**ё**таць і л**я**таць*, *л**і**тасцівы і літасц**і**вы*, *нав**о**кал і навак**о**л*, *веснав**ы** і вясн**о**вы*, *сн**я**данне і сн**е**данне* і інш. Але для большасці словаў і словаформаў нормаю лічыцца толькі адзін націскны варыянт.

Практыка сведчыць, што ёсць словы і словаформы, у якіх памылкі з націскам назіраюцца найбольш часта, можна сказаць, рэгулярна. Так, сярод назоўнікаў найбольш тыповыя памылкі наступныя: **Укра́іна** (трэба: **Украі́на**), **зна́хар** (трэба: **знаха́р**, як і **пчаля́р**, **гаспада́р**), **галу́б** (трэба: **го́луб**), **дыспа́нсер** (трэба: **дыспансе́р**), **наві́на** (трэба: **навіна́**); у прыметніках – **ма́лы** (трэба: **малы́**), **ста́ры** (трэба: **стары́**); у дзеясловах прошлага часу множнага ліку не павінна быць **да́лі**, **прыня́лі**, **узя́лі**, а толькі **далі́**, **прынялі́**, **узялі́**. Або ў другой асобе множнага ліку цяперашняга ці будучага простага часу трэба гаварыць не **бярэ́це**, **нясе́це**, **жыве́це**, **ідзе́це**, а ставіць націск на апошнім складзе: **берацé**, **несяцé**, **жывяцé**, **ідзяцé**.

Яшчэ з паўстагоддзя таму асноўнаю прычынаю парушэння акцэнталагічных (націскных) нормаў лічылі ўплыў народных гаворак. Напрыклад, у дыялектах фіксуецца назва **крапі́ва**, а літаратурнаю лічыцца форма **крапіва́**. Але ў наш час парушэнні вынікаюць, у першую чаргу, з прычыны фармальнага двухмоўя ў сённяшняй Беларусі: найчасцей няправільна ставіцца націск у тых выпадках, калі да беларускага моўнага матэрыялу дастасоўваюцца рускакамоўныя падыходы.



Напрыклад: **адзі́наццаць**, **чаты́рнаццаць**, **шэсцьдзяся́т** замест правільных формаў: **адзіна́ццаць**, **чатырна́ццаць**, **шэ́сцьдзясят.** Або надзвычай частотныя памылкі ў назвах некаторых беларускіх гарадоў, дзе павінна быць, напрыклад, **Мазы́р**, **Нясві́ж**, **Талачы́н**.

*(Працяг будзе)*

***Юрась Бабіч,***
*кандыдат філалагічных навук*

Каталіцкі ВЕСНІК №10 (127) кастрычнік 2021 г.

### *Хвала Хрысту!*



*13 кастрычніка адзначыў імяніны наш шаноўны* ***ксёндз-канонік Эдвард Ахрамовіч.***

*Ад усіх вернікаў касцёла Св. Пятра і Паўла ў аг. Дрысвяты дасылаем Вам, ксёндз Эдвард, віншаванні і самыя сардэчныя пажаданні! Няхай добры Бог адорвае Вас усімі патрэбнымі ласкамі і ўзмацняе ў выкананні ўсіх спраў! Жадаем, каб здароўе не падводзіла Вас ніколі, жыццёвыя дарогі былі шчаслівымі, каб на іх Ваш Анёл-ахоўнік абараняў ад небяспекі ўдзень і ўначы, каб усе мары здзяйсняліся, а ўсмешка заўсёды ўпрыгожвала Ваш твар, каб побач былі толькі добразычлівыя людзі!*

*Няхай Дух Святы ніколі не пакідае Ваша сэрца, а Збаўца хай вядзе па прыгожым, хоць і цяжкім шляху пастырскага служэння! Сонечных Вам сцежак на святарскім шляху!*

*А мы сваёй малітвай будзем падтрымліваць Вас!*

***Удзячныя вернікі з Дрысвят (Браслаўскі р-н)***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*13 кастрычніка Дзень Анёла азначыў наш душпастыр* ***Эдвард Ахрамовіч.***

*Шаноўны ксёндз Эдвард! Прыміце нашы шчырыя віншаванні з гэтай нагоды! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай дапамогі ў служэнні касцёлу, апекі Маці Божай і Анёла Ахоўніка!*

***З павагай і малітвай, вернікі парафіі Св. Яна Хрысціцеля (аг. Опса)***

### *Віншуем і дзякуем!*



*4 кастрычніка свае імяніны адзначыў пробашч нашага верхнядзвінскага касцёла* ***ксёндз Аляксандр Грыцкевіч.*** *З гэтай нагоды мы, парафіяне касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, хацелі б выказаць святару сваю вялікую ўдзячнасць за працу на нашай зямлі!*

*Ксёндз Аляксандр узначаліў Верхнядзвінскую парафію шэсць гадоў таму. У яго асобе мы сустрэлі маладога, энергічнага, поўнага новых ідэй святара, які разам з тым паважае, шануе традыцыі. Мы ўбачылі не толькі адданага слугу касцёла, але і моцную асобу, здольную весці за сабой людзей, згуртаваць парафію, адстойваць прынцыпы веры і хрысціянскай маралі.*

*Вельмі імпануе, што наш шаноўны пробашч уважліва ставіцца да вернікаў і іх патрэбаў, шмат працуе дзеля ўмацавання духоўнасці на нашай зямлі, уводзіць новыя прыгожыя звычаі. Ксёндз Аляксандр шмат займаецца з дзецьмі, арганізоўвае пададрожжы да святыняў Беларусі, плённа працуе з міністрантамі, вучыць іх правільна і годна дапамагаць святару. А яго глыбокія, цікавыя і павучальныя казанні на прыгожай беларускай мове зачароўваюць нас і кранаюць да глыбіні душы.*

*Мы сардэчна дзякуем айцу Аляксандру за шчырую службу і жадаем плёну ў працы і шчаслівага святарскага жыцця! І мы будзем усебакова падтрымліваць яго ініцыятывы і маліцца, каб Бог адарыў пробашча здароўем і сілай для гэтай працы, благаслаўляў ва ўсіх пачынаннях, вёў шляхам узрастання ў веры і мудрасці. Каб ім апекавалася Божая Маці і атуляла сваёй міласэрнасцю і дабрынёй. Каб верхнядзвінская зямля стала для нашага ксяндза роднай і плаціла за службу шчырай любоўю і павагай!*

***З павагай і падзякай, парафіяне верхнядзвінскага касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі***



### *Віншуем!*



*13 лістапада свой дзень нараджэння будзе адзначаць* ***ксёндз Чэслаў Куцмеж*** *– сэрцанін, які нясе святарскую паслугу Богу і парафіянам касцёла Антонія Падунскага ў Паставах.*

*З гэтай цудоўнай нагоды мы сардэчна віншуем шаноўнага ксяндза Чэслава, дзякуем за яго павучальныя казанні, за цікавыя заняткі біблійнай групы, за шчырасць, адкрытасць і ветлівасць! Няхай Езус Хрыстус блаславіць кожны дзень гэтага нястомнага, адданага Богу і людзям святара, Маці Божая хай ахінае яго сваёй любоўю, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае сваімі дарамі!*

*Жадаем доўгага жыцця ў добрым здароўі, душэўнага супакою, радасных і шчаслівых дзён і толькі добразычлівых людзей побач!*

***Са шчырай малітвай, парафіяне***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*З вялікай радасцю, адкрытымі сэрцамі і шчырымі пачуццямі віншуем дарагога і любімага нашага* ***ксяндза-пробашча Тадэвуша Кавальскага*** *з імянінамі (28 кастрычніка) і надыходам юбілейнага дня нараджэння (4 лістапада)!*

*Дарагі ойча Тадэвуш! Усе нашы вернікі вельмі ўдзячныя Айцу Нябеснаму, што Вы ёсць у нас! Цэнім, любім і паважаем Вас за чалавечнасць, за дабрыню, за клопат пра ратаванне нашых душаў ад граху, за прыклад любові да Бога і людзей! Праз слова Божае, праз малітвы Вы набліжаеце нас да веры і ўсяго святога. Вялікі дзякуй за шчырае душпастырскае служэнне, за разумныя і прыгожыя казанні, за навучанне ўсяму добраму!*

*Жадаем Вам, ойча, каб у гэтую халодную і пахмурную восеньскую пару ў Вас у душы быў толькі вясновы настрой! Здароўя моцнага і даўгалецця Вам і Вашым родным, цярплівасці, вытрымкі, душэўнага спакою і Божай ласкі! Няхай Ваш нябесны апякун Юда Тадэвуш ніколі не адыходзіць ад Вас, абярагае, клапоціцца і дапамагае ў святарскіх справах і асабістым жыцці! Няхай Божая міласэрнасць заўсёды будзе з Вамі і Вашымі роднымі!*

*Мы ўсе молімся за Вас!*

***З вялікай павагай, удзячнасцю і любоўю, вернікі касцёла Хрыста Валадара ў Бягомлі.***

### *Хвала Хрысту!*



*12 кастрычніка другую гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначылі* ***ксёндз Уладзіслаў Шарковіч,*** *вікарый катэдральнай парафіі, і* ***ксёндз Алег Зямчонак,*** *вікарый парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.*

*Шаноўны кс. Уладзіслаў, наш цяперашні душпастыр!*

*Дарагі кс. Алег, наш былы вікарый!*

*Прыміце шчырыя віншаванні і цёплыя словы падзякі ў такі важны для вас дзень! Жадаем, каб праз вашае служэнне Пан Бог рабіў вялікія справы, адкрываў сэрцы людзей і змяняў іх жыццё! Жадаем вам самім узрастаць у любові і пакоры, пазнаваць мудрасць Божага свету, больш радавацца і здзіўляцца! Няхай побач з вамі будуць надзейныя сябры, шчырыя вернікі і добразычлівыя людзі! Жадаем плённай працы на карысць Касцёла ў Віцебскай дыяцэзіі!*

***З малітвай, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага (г. Віцебск)***



# У Браславе сястра Марына Лютая склала вечныя манаскія шлюбы

1 кастрычніка ў санктуарыі Маці Божай Валадаркі Азёраў у Браславе сястра Марына Лютая з кангрэгацыі Сясцёр Служабніц Езуса ў Эўхарыстыі прынесла вечныя манаскія абяцанні. Яна паабяцала Богу жыць у чыстасці, убостве і паслухмянасці да канца сваёй зямной вандроўкі.

Урачыстую Літургію ўзначаліў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. У касцёле сабраліся вернікі Браслаўскай парафіі, бацькі і родныя сястры Марыны, сёстры эўхарысткі з розных дамоў Беларусі, айцы марыяне з Жодзіна, Барысава і Росіцы. Асаблівым чынам усе прысутныя на чале з пастырам Віцебскай дыяцэзіі прывіталі ксяндза Юзафа Пятушку MIC, які ў маі адзначыў сваё 90-годдзе. Ён быў пробашчам парафіі ў Барысаве, да якой належала сястра Марына Лютая, таму яго прысутнасць і малітва стала для яе вялікай падтрымкай.

Пачатак кастрычніка для Сясцёр Эўхарыстак — асаблівы час. Распачынаецца Марыйны месяц, калі мы асаблівам чынам разважаем таямніцы Святога ружанца, просім Марыю навучыць нас мудрасці сэрца і паслухмянасці, якімі жыла Маці Збаўцы. "Вось я, служабніца Пана. Няхай мне станецца паводле Твайго Слова", — менавіта гэтыя словы Марыі сталі дэвізам самага важнага дня сястры Марыны. Яна разам з Марыяй сказала Богу сваё "Fiat".

У гамiліі біскуп Алег Буткевіч падкрэсліў важнасць гэтага дня для ўсіх нас: "Мы з вамі перажываем асаблівы момант у свеце, дзе людзі ўсё больш адыходзяць ад Бога, шукаючы прыемнасцяў, больш дасканалага жыцця. Хуткі, імклівы свет сёння пакідае душу за сабой, не думае пра яе. Таму чалавецтва патрабуе людзей, якія паказваюць сваім жыццём, што ёсць нешта большае за патрэбы цела. Якія жывуць духоўнымі каштоўнасцямі".

Пасля іерарх адзначыў недахоп новых пакліканняў да манаскага і святарскага жыцця: "Чалавек у пагоні за сваім дабрабытам сёння не чуе голас паклікання, баіцца запытацца ў Бога: "Ці Ты маеш для мяне нейкі іншы план?.." Дзякуй вялікі сястры Марыне, што пачула гэты голас і не пабаялася адказаць Богу "Так!" Дзякуй таксама яе бацькам, якія падтрымалі дачку ў яе выбары.

"Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх", — чулі мы сёння ў Евангеллі. Можа здавацца, што чалавек, ідучы ў кляштар, памірае для свету, але насамрэч ён абірае найлепшую частку не толькі для сябе, але і для ўсяго касцёла. Калі мы жывем гэтай любоўю, аб якой кажа апостал Ян, мы становімся шчаслівымі самі і нясем шчасце іншым людзям. Застаецца толькі вытрываць у гэтай любові, вытрываць да канца на дарозе паклікання.

Чысціня, убоства і паслухмянасць — гэтыя цноты дапамагаюць выстаяць на шляху любові. Яны вядуць да радасці, да Езуса Хрыста, бо і Ён быў чысты, убогі і паслухмяны свайму Айцу".

Пасля гамiліі і Літаніі да ўсіх Святых сястра Марына Лютая склала на ўсё жыццё абяцанні чысціні, беднасці і паслухмянасці на рукі с. Антаніны Багдановіч, настаяцельніцы Беларуска-Літоўскай дэлегатуры. З гэтага моманту жыццё сястры Марына належыць выключна Хрысту. З гэтым яе і віншавалі ўсе прысутныя, праслаўляючы Бога за дар жыцця і паклікання.

***Ася Паплаўская,***
*eucharystki.wordpress.com*

# Оружие должно быть по руке, или Мой опыт Розария

**7 октября в Католической Церкви отмечается праздник Девы Марии Розария, а весь октябрь традиционно посвящён молитве на четках, возникновение которой традиция связывает с явлением Девы Марии святому Доминику в 1214 году. Свидетельством о том, как открыть для себя новое в молитве, которой уже 800 лет, поделился Сергей Сабсай.**

Когда год назад Анна-Мария Кудрик позвала меня в воскресную школу рассказать о молитве Розария, я удивился: эта молитва изначально вовсе не была одной из моих любимых. В церковной юности я полюбил литургию часов, розарий же так и не стал “моим”. Много позже, лет через двадцать после прихода в Церковь, я начал “осваивать” молитву Розария в период, когда я резко, в стиле “Скандального происшествия в Бриксмилле”, ушёл с наёмной работы и начал готовить с нуля своё дело – образовательный проект. Это было время, когда не раз оставалось рассчитывать только на помощь свыше – прекрасный опыт доверия и надежды. В результате за последние лет восемь Розарий стал для меня одним из наиболее универсальных способов молитвы в самых разных обстоятельствах и намерениях. А по свидетельству Анны, та попытка поделиться опытом оказалась небесполезной.

Первое, что пришло в голову, чтобы “оживить” молитву розария, – на каждом зерне добавлять не одно и то же указание на тайну, над которой размышляешь, но свою особенную фразу, основанную на Библии (например, о Благовещении: “…благословен плод чрева Твоего, Иисус, ибо у Бога не останется бессильным никакое слово”, “…ибо Ты ответила ангелу: да будет Мне по слову твоему”, “…ибо Он спасает людей Своих от грехов их”; о Евхаристии: “…Иисус, хлеб истинный, сошедший с небес в Бетлееме – Доме Хлеба”, “…хлеб Божий, дающий жизнь миру”). Это побуждает и лучше вслушиваться в Писание, и подробнее размышлять о каждой тайне. Разумеется, это не открытие. Позже я прочитал, что именно так молятся картезианцы уже много веков. Ну так трудно придумать что-либо новое в молитве, которой восемьсот лет, но можно открыть в ней новое для себя.

Разумеется, это довольно рассудочный и рациональный способ молиться, но он тоже является исполнением первой заповеди: читать “возлюби Господа, Бога твоего… всем разумением твоим”. Следующий вариант чтения Розария несколько более медитативный: использовать его как basso continuo, стабильную основу, поверх которой идёт основная мелодия: читать Розарий, одновременно глазами прочитывая евангельский текст, относящийся к соответствующей тайне. Кому-то это поможет в молитвенном чтении Писания, для кого-то такое совмещение окажется трудным, но тем-то и хорош Розарий, что это молитва живая и разнообразная.

Ещё один метод чтения Розария – по совету отцов-иезуитов во время игнатианских реколлекций: попробовать вовсе отказаться от рассудочного подхода и просто созерцать тайны розария, наблюдать их либо со стороны, либо, наоборот, входя в евангельскую сцену, ощущая себя в ней, изнутри. Это опять-таки для кого-то сложно, для иных – легче. Все мы разные по складу мышления, по характеру, темпераменту, и именно поэтому стоит пробовать разные способы даже одной и той же молитвы.

Розарий – не только молитва размышления и созерцания, но и заступническая. “Молись о нас грешных и о таком-то конкретном человеке” – встраивается очень легко. Вот сочетать размышления над евангельскими тайнами и прошения о других – трудно. Но всё равно нащупываешь некую внутреннюю логику: на этих тайнах сейчас кажется актуальным молиться о близких, на этих – о крестниках, на этих – о больных и страдающих… С одной стороны, твоя молитва о людях приобретает ту или иную окраску; с другой, ты можешь по-новому увидеть, о чём та или другая евангельская тайна через конкретных людей и ситуации.



Кстати, православный аналог Розария – богородичное правило, состоящее в прочтении 15 (или хотя бы 5) десятков “Богородице Дево, радуйся…”, перемежаемых “Отче наш” и краткими молитвенными воззваниями и посвящённых различным событиям из жизни Богородицы – носит характер заступнической молитвы. Его возводят к VIII веку, а в современной Православной Церкви его оживил св. Серафим Саровский. Заканчивается оно призывом “сохрани меня от всякаго зла и покрый меня Честным Твоим Омофором”. Праздник Покрова Пресвятой Богородицы, как и память Царицы Розария, приходится на октябрь (14-го в РПЦ, 1-го и 28-го у новостильных греков) и также хранит память об избавлении от врагов заступничеством Богоматери. Чем лучше мы, христиане разных конфессий, узнаём друг друга, тем ближе оказываемся.

Наконец, с Розарием можно подходить не только к паре десятков евангельских тайн – радостных, светлых, скорбных и славных, но и к другим тайнам Христа и Евангелия, познанию которых Церковь посвящает те или иные праздники. Например, в последний праздник Святейшего Сердца Иисуса у меня сложилась такая десятка Розария:

*…благословенна Ты между жёнами, и благословен плод чрева Твоего Иисус,*

*– чьё сердце боролось до кровавого пота в саду Гефсиманском, чтобы исполнить волю Отца;*

*– чьё сердце познало беззащитность и боль бичевания;*

*– чьё сердце вольно приняло страдание и унижение коронования терновым венцом;*

*– чьё сердце надрывалось от ноши креста;*

*– чьё сердце молилось о прощении распинающих;*

*– чьё сердце заботилось о Матери, умирая на кресте;*

*– чьё сердце простило раскаявшегося разбойника;*

*– чьё сердце познало богооставленность в смертный час;*

*– чьё сердце разорвалось от страдания, принятого из любви к нам;*

*– из чьего пронзённого сердца истекли кровь и вода, как вечный источник благодати.*

Розарий, за который однажды взялся буквально из послушания Церкви (раз такое множество святых и Пап так настойчиво рекомендуют эту молитву, я хотя бы попробую), оказался очень гибкой, пластичной молитвой, которая откликается на различные нужды и может служить основой для размышления, созерцания, заступничества, в конечном счёте – для познания Христа и общения с Ним через любящую Матерь Церкви и в Её сопровождении.

“Боже, услышь молитвы наши и по ходатайству Царицы святого Розария даруй нам совершенное разумение тайны спасения”, – как молится Церковь в день Пресвятой Девы Марии Розария.

***Сергей Сабсай,***
*рускатолик.рф*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета “Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Часовы дах накрыты, неўзабаве адновяцца набажэнствы ў касцёле

**Пра тое, як ідзе ліквідацыя наступстваў майскага пажару ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай, Catholic.by даведаўся непасрэдна на месцы, дзе без выходных няспынна працягваецца праца па аднаўленні святыні.**

Раніца 1 кастрычніка для пробашча парафіі ў Будславе ксяндза Дзмітрыя Дубовіка пачалася з заводу адноўленага гадзінніка на вежы касцёла. Сёння святара пры гэтым адказным занятку суправаджае прадстаўнік партала.

Рабіць гэта пробашчу даводзіцца раз на суткі: падымацца на самы верх вежы, да механізма, і з дапамогай спецыяльнага прыстасавання падымаць дзве "гіры" – сярэдніх памераў валуны, якія, апускаючыся ўніз, прыводзяць у рух механізм старадаўніх курантаў.

"Ён настроены такім чынам, каб ад заводу да заводу гадзіннік паспяваў „дагнаць" розніцу ў некалькі хвілін, якія патрэбныя на саму гэтую працэдуру, калі куранты спыняюцца на некалькі мінут", – тлумачыць ксёндз Дзмітрый. І мы ўвачавідкі пераканаліся, што рабіць гэта, тым больш кожны дзень, зусім не так проста, як можа здавацца: тут патрэбныя і веды, і фізічная сіла, і вялікая руплівасць.

"Накруціўшы" гадзіннік і паслухаўшы на вежы, як ён б'е "дзевяць", спускаемся ў касцёл. Тут напярэдадні чысцілі гзымсы, таму паўсюль на падлозе пыл і бруд, што за гады на іх назбіраўся. Усталяваны ў прэзбітэрыі базілікі датчык паказвае 8 градусаў вышэй за нуль і 88 працэнтаў вільготнасці. Гэтыя васьмёркі на пэўны момант выклікаюць уяўленне пра бясконцасць пры думцы пра тое, калі ж завершыцца аднаўленне санктуарыя пасля пажару...

Аднак хоць аб'ёмы працы сапраўды вялізныя і на іх выкананне патрэбныя астранамічныя грошы, за час, які мінуў пасля надзвычайнага здарэння, удалося зрабіць даволі шмат.

"Мы зрабілі неабходную праектную дакументацыю, у адпаведнасці з ёй усталявалі кроквавую сістэму і накрылі базіліку часовым дахам, – распавядае пробашч Будслаўскай парафіі. – Новыя кроквы – гэта металічныя фермы, якія не толькі нясуць дах, але і з'яўляюцца своеасаблівымі сцяжкамі для скляпенняў у верхняй частцы будынка.

Папярэднія кроквы з дрэва такой дадатковай функцыі не выконвалі: яны проста абапіраліся на сцены. Акрамя таго, яны стаялі часцей, а металічныя фермы даюць магчымасць зменшыць колькасць матэрыялу, што заўважна аблегчыла агульную вагу канструкцыі.

Да зімы мы накрылі касцёл часовым дахам з ацынкаванага прафіляванага насцілу. Зрабіць капітальны новы дах з медзі не атрымалася з дзвюх прычын: не хапала часу і сродкаў.

Для меднага даху, які, дарэчы, вельмі дорага каштуе, спатрэбіцца таксама драўлянае акратаванне, і ўжо на яго будзе насцілацца чарнавы дах і медзь. Пакуль нашай задачай было накрыць скляпенне, якое і так моцна пацярпела ад вады падчас тушэння пажару і моцных дажджоў, што часта ішлі сёлета. З гэтай задачай мы, дзякуй Богу, справіліся. Таму цяпер ужо адпала неабходнасць у зробленых намі напачатку спецыяльных прыстасаваннх, каторыя па рукавах адводзілі ваду са скляпенняў. Яны былі разабраныя, пасля чаго мы пачысцілі гзымсы.

За ўсё, што было зроблена (а гэта сапраўды шмат), я шчыра дзякую ўсім ахвярадаўцам, якія збіралі на гэта сродкі, валанцёрам, каторыя дапамагалі разбіраць завалы, прыбіралі смецце і выконвалі шмат іншай карыснай і патрэбнай працы, а таксама будаўнікам, што працуюць на касцёле без выходных вахтавым метадам.

Спадзяюся, што да ўрачыстасці Усіх Святых мы распачнём маліцца ў касцёле.

Ужо нават унеслі ўсярэдзіну частку лавак. Пад купалам базілікі застаецца свабоднае месца, таму што гэта адзіная зона, якая пакуль выклікае занепакоенасць. Але непасрэдна пад купалам зроблена адмысловая канструкцыя з металу і дрэва, каторая яго надзейна страхуе", – тлумачыць ксёндз Дзмітрый, водзячы прадстаўніка партала па святыні.

Усярэдзіне на скляпеннях там-сям відаць чорныя пісягі ад сажы, што трапляла ўсярэдзіну з вадой, шэрыя плямы нявысахлага тынку і зялёную цвіль, што больш за ўсё пайшла па кутах, дзе амаль няма вентыляцыі.

Але ў нядаўна адрэстаўраванай частцы базілікі ўсё выглядае некранутым, прычым настолькі, што нават цяжка сабе ўявіць, што тут быў моцны пажар.

Дзесьці апоўдні ў Будслаў прыехаў старшыня Мінаблвыканкама Аляксандр Турчын. Поўная павагі пастава дзяржаўнага мужа – яскравае сведчанне таго, што нядаўняя правакацыйная выхадка маргіналаў ад журналістыкі сапраўды не мае нічога супольнага з канструктыўнай пазіцыяй уладаў у адносінах да Каталіцкага Касцёла.

Высокі чыноўнік трымае на асабістым кантролі ход працаў па аднаўленні Нацыянальнага санктуарыя ў Будславе і рэгулярна здзяйсняе працоўныя выезды на месца, каб усё бачыць сваімі вачыма і прымаць аператыўныя рашэнні.




Ён уважліва выслухаў дэтальную справаздачу пробашча па ўнікальным не толькі для сталічнага рэгіёна, але для ўсёй краіны аб'екце, што з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю нацыянальнага значэння.

Абмеркаваўшы бягучую сітуацыю, кіраўнік вобласці паабяцаў падумаць над тым, што яшчэ можна зрабіць з боку дзяржавы, каб у Будслаў як найхутчэй вярнуліся пілігрымы і турысты.

Аляксандр Турчын выказаў задавальненне ад таго, што базіліка нарэшце накрытая, а значыць тут ужо можна будзе зноў маліцца і не баяцца зімы з яе завеямі і снегападамі.

У гэты пагодны кастрычніцкі дзень Нацыянальны санктуарый ахоплены "пажарам" жоўта-рудога восеньскага лісця, а новы дах амаль зліваецца з нябесным блакітам, па якім плывуць не падобныя да клубоў дыму чорныя злавесныя хмары, а прыветныя белыя аблокі. І сярод гэтага хараства з'яўляецца надзея на тое, што дзякуючы намаганням неабыякавых людзей, якія разам робяць вялікую справу, гэтае выбранае Маці Божай месца нашай Бацькаўшчыны, дзе нашыя таленавітыя продкі ўзвялі такі цуд дойлідскага майстэрства, будзе адноўлена ўдзячнымі нашчадкамі і захавана наступным пакаленням як гонар і вялікая святыня роднай зямлі.

*кс. Мікола Гракаў*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Альдона Макоўская** *(Відзы)*, **Яніна Парфяновіч** *(Пялікі)*, **Іван Сіманёнак** *(Паставы)*, **Галіна Русецкая** *(Нясвіж)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Віцебск)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Станіслава Рагожкіна** *(Пліса)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Пілецкая А.В.** *(Новалукомль)*, **Іваноўская К.К.** *(Ярэва)*, **Тэрэза Варановіч** *(Докшыцы)*, **Тэрэза Каптур** *(Пагошча)*, **Валянцін Альхімёнак** *(Докшыцы)*, **Часлава Сварцэвіч** *(Таргуны)*, **Алена Карневіч** *(Ніўнае)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Ганна Лук'янская** *(Пялікі)*, **Марыя Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Даната Варанько** *(Друя)*, **Таццяна Малецкая** *(Мёры)*, **Марына Вішнеўская** *(Мёры)*, **Балтрамун Т.І.** *(Бастуны)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Бернарда Піваровіч** *(Вайнюнцы)*, **Данута Мароз** *(Лонскія)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Тэрэза Смулько** *(Зорка)*, **рух "Маці ў малітве"** *(Відзы)*, **Елізавета Лебедзева** *(Бягомль)*, **Соф'я Мацкевіч** *(Ракуці)*, **Тэрэза Лешчык** *(Сарокі)*, **Эмілія Клепацкая** *(Сарокі)*, **Галіна Валькевіч** *(Глыбокае)*, **Даната Сенькавец** *(Сенькаўцы)*, **Ала Тарасёнак** *(Глыбокае)*, **Станіслава Пятліцкая** *(Баранавічы)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Махальская Е.І.** *(Падсвілле)*, **Давыдзенак Л.П.** *(Усце)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Тэрэса Насута** *(Старыя Васілішкі)*, **Лідзія Іватовіч** *(Яневічы)*, **Алена Сакалоўская** *(Павяцце)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Тэрэса Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Ядвіга Трайко** *(Карасіна)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Антон Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Ванда Усціновіч** *(Януковічы)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Шук Э.Л.** *(Павяцце)*, **Ганна Швед** *(Людвінова)*, **Марыя Новік** *(Зорка)*, **Антон Петухоўскі** *(Бальшавік)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Марыя Міронава** *(Мосар)*, **Аліна Фёдарава** *(Глыбокае)*, **Яніна Стаўронская** *(Луцк Масарскі)*, **Даната Алейнік** *(Мосар)*, **Станіслава Носка** *(Мосар)*, **Ірэна Сіманенкава** *(Мосар)*, **Алена Балай** *(Мосар)*, **Аліна Бука** *(Мосар)*, **Яніна Ластоўская** *(Мосар)*, **Ядвіга Лысёнак** *(Мосар)*, **Станіслава Жук** *(Мосар)*, **Аліна Палелейка** *(Мосар)*, **Зоф'я Скукоўская** *(Мосар)*, **Марыя Мурзіч** *(Мосар)*, **Альжбета Калмук** *(Мосар)*, **Алена Ліпская** *(Мосар)*, **Часлава Лаўрыновіч** *(Мосар)*, **Вераніка Курыловіч** *(Мосар)*, **Ігар Агулін** *(Мосар)*, **Ванда Альсевіч** *(Мосар)*, **Рэгіна Бука** *(Радзюкі)*, **Зоф'я Ласоўская** *(Радзюкі)*, **Уладзіслава Бохан** *(Мосар)*, **Марыя Ткачонак** *(Мосар)*, **Жанна Юрык** *(Глыбокае)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

**Працягваем вывучаць Біблію разам з «Пазнавайкай». Разважаем над кнігай Ездры.**

## заданне №1

За сваю непаслухмянасць Госпаду і ідалапаклонства Юдэі былі ўзятыя ў палон. Толькі праз 70 год Бог дазволіў ім вярнуцца ў Ерузалем.

**Дапамажы юдзям вярнуцца дамоў.**




## заданне №2

Ездра паходзіў з роду Аарона, а чым ён займаўся пры жыцці?

**Разгадай рэбус і даведайся адказ.**




## заданне №3

Бог падтрымліваў Ездру ў яго служэнні. Прачытай словы, якія сам Ездра кажа пра падтрымку Госпада. (Кн. Ездры 7, 28)

**Прачытай правільна, ідучы па стрэлках. Кожнае новае слова пачынаецца з вялікай літары.**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| І | к | а | Б | с | ь |
| я | П | д | о | ч | л |
| т | а | а | г | а | М |
| м | д | п | м | й | а |
| р | б | с | т | г | о |
| дз | а | о | Г | я | Б |
| ё | ы | к | а | м | ы |
| р | ы | у | Н | а | л |
| т | ў | р | а | д | а |
| я | с | о | о | н | М |
| м | я, | Б | ю. | к | ч |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ↓ | | → | ↓ | | |
| → | ↓ | ↑ | ↓ | | |
| | ↓ | ↑ | → | → | ↓ |
| | ↓ | ↑ | | ↓ | ← |
| | ↓ | ↑ | | → | ↓ |
| ↓ | ← | ↑ | ← | | ↓ |
| ↓ | | → | ↑ | | ↓ |
| → | ↓ | ↑ | ↓ | ← | ← |
| | ↓ | ↑ | → | → | ↓ |
| | ↓ | ↑ | ↓ | ← | ← |
| | → | ↑ | ↓ | | |

**АДКАЗ:** ______________________________

______________________________

______________________________

______________________________

## заданне №4

**1 лістапада** Каталіцкі Касцёл адзначае ўрачыстасць Усіх Святых. У гэты дзень будзем дзякаваць Богу за дар святасці, а таксама ўспамінаць нашых нябесных заступнікаў – святых.

З дапамогай бацькоў або сяброў даведайся больш пра святога, чыё імя ты носіш.

**Запішы ўнізе, што найбольш уразіла цябе з яго гісторыі жыцця.**



**2 лістапада** ў Касцёле адзначаецца ўспамін усіх памерлых вернікаў. У гэты дзень мы ўзгадваем усіх памерлых, молячыся за тых, хто ўжо адышоў у вечнасць.

**Памаліся малітвай за памерлых:**

Божа, міласэрны Пане, дай душам слугаў Тваіх месца ў небе, благаслаўлёны супакой і асвятлі яснасцю Твайго святла. Пане, выслухай ласкава нашыя малітвы за душы слугаў Тваіх, за якіх мы молімся, просячы, каб Ты прыняў іх у супольнасць сваіх святых. Учыні, просім Цябе, Пане, каб душы слугаў Тваіх, ачышчаныя ад сваіх правінаў, атрымалі прабачэнне і вечны супакой. Праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.



*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Арфеева***

# Празднование Вознесения Девы Марии в Аглоне объявлено в Латвии событием государственного значения

**Правительство Латвии решило объявить празднование Вознесения Девы Марии в Аглоне, которое ежегодно отмечается католиками с 12 по 15 августа, событием (мероприятием) государственного значения, сообщает Благовест-инфо.**

Руководство Римско-Католической Церкви Латвии уполномочило приход Аглонской базилики организовать празднование, участвовать в заседаниях руководящего комитета, заключать необходимые соглашения, а также принимать, использовать и отчитываться о финансировании, предоставляемом государством.

Организационный комитет разработал план проведения мероприятия государственного значения, а также план безопасности мероприятий национального значения в Аглоне на 2022 год. Он предусматривает комплекс мер и задач по обеспечению общественного порядка и безопасности дорожного движения, оказанию неотложной медицинской помощи, обеспечению пожарной безопасности и спасательных работ (в случае необходимости) и многое другое.

Основная целевая группа – члены католической конфессии, проживающие в Латвии, которых, согласно официальной информации, предоставленной Римско-Католической курией Рижской митрополии, в Латвии насчитывается около 400 тысяч.

Фестиваль в Аглоне объединяет представителей других конфессий, проживающих в Латвии, а также паломников из других стран мира.



## У Італіі паўмільёна дзяцей і падлеткаў наведваюць каталіцкія дзіцячыя сады і школы



**Каля 545 тыс. дзяцей і падлеткаў у Італіі наведваюць каталіцкія дзіцячыя сады і школы. Лічба стала вядомая з XXIII даклада пра каталіцкія школы ў краіне.**

У параўнанні з 2020 г. колькасць выхаванцаў касцельных адукацыйных устаноў, а іх 7 859, паменшылася на 2675 (0,5%).

Працягваецца павелічэнне колькасці вучняў з неітальянскім грамадзянствам: 31116 чалавек (5,7% ад агульнай колькасці), а таксама вучняў з асаблівасцямі развіцця: 8756 чалавек (1,6% ад агульнай колькасці).

У каталіцкіх дзіцячых садах і школах працуюць 54387 педагогаў, што таксама больш за 2020 г. Прычым амаль палова (25434) – у дашкольных установах. Што тычыцца геаграфічнага размеркавання, амаль шэсць з дзесяці адукацыйных устаноў (59,7%) знаходзяцца на поўначы Італіі.

Аўтары даклада адзначаюць бясспрэчны давер бацькоў да каталіцкіх дзіцячых садоў і школ. Ідзе на карысць і тое, што ў такіх установах існуе абмежаваная колькасць вучняў, а гэта павышае бяспеку і ўзровень адукацыі.

*Кс. Аляксандр Амяльчэня, беларуская рэдакцыя Vatican News*

## На лістапад прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**5** лістапада – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*, **імяніны** адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**6** лістапада – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**11** лістапада – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**12** лістапада – гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Валерый Орсік** *(Дзеркаўшчына)*, **кс. Алег Півавар** *(Валкалата)*, **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*;

**13** лістапада – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Чэслаў Куцмеж SCJ** *(Паставы)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**14** лістапада – дзень нараджэння адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap** *(Докшыцы, Бягомль)*;

**19** лістапада – дзень нараджэння адзначае **кс. Генадзь Ляўкоў**;

**20** лістапада – дзень біскупскай сакры адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**23** лістапада – імяніны адзначае **а. Кляменцій Верт SJ (Віцебск)**;

**30** лістапада – імяніны адзначаюць **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **кс. канонік Андрэй Аніскевіч** – дырэктар "Карытас-Беларусь", **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*, **кс. Андрэй Бульчак** *(Паставы)*, **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **кс. Яўген Міхайлаў** *(Лучай)*; дзень нараджэння адзначае **а. Аляксей Варанко** *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Арфеева***





## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі

*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў

(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)

2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.

3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:

*363*[код пацвярджэння]#

4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 9**

1 – Б; 2 – В; 3 – Б; 4 – Б; 5 – А; 6 – А; 7 – В; 8 – Б; 9 – А; 10 – А


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5270

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 21.10.2021 г. у 12.37



**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by



ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь